
Бургамістр Сухаволі → 4

# Ніва

ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ

PL ISSN 0546-1960 NR INDEKSU 366714


Павел Грэсь у Гайнаўцы → 5

http://niva.bialystok.pl
redakcja@niva.bialystok.pl

№ 51 (3162) Год LXI Беласток, 18 снежня 2016 г. Цана 2,50 зл. (у тым VAT 5%)


**На Гайнаўшчыне абмежавалі гадоўлю традыцыйнымі спосабамі парасят і свіней, а некаторыя нават цалкам яе спынілі.**



# Святы без хатняй каўбасы

Прычынай гэтаму перш за ўсё з'яўляецца афрыканская чума свіней (АЧС), якая паявілася ў Польшчы ў пачатку 2014 года. Першапачаткова выяўлены былі дзікі з гэтай хваробай, а адзінокія выпадкі АЧС у свіней былі пасляхова ліквідаваны. Летам гэтага года вялікая колькасць свіней хворых на АЧС была зафіксавана якраз у Гайнаўскім павеце, а пазней гэтая хвароба паявілася ў іншых паветах Падляшскага ваяводства. Зараз на Гайнаўшчыне вядзецца вельмі жорсткі кантроль перамяшчэння, продажу і куплі парасят і свіней. Жывёлаводы мусяць таксама прытрымлівацца розных прынцыпаў асцярожнасці падчас гадоўлі, а дзеля іх ажыццяўлення патрэбныя фінансавыя расходы. Таму ў Гайнаўскім павеце абмежавалася гадоўля свіней, якія можна было б закалоць перад святамі Раждажства Хрыстовага, як гэта рабілася штогод у нашых сёлах у канцы снежня. Падчас зімовых святкаванняў у частцы вясковых хат не будзе магчымасці пачаставаць дзяцей і ўнукаў свежымі каўбасамі і вяндлінай, зробленымі дамашнім спосабам са свінога мяса, а прыйдзецца спажываць вяндліны, купленыя ў магазінах, у якіх да мяса дадаюцца розныя дабаўкі.

Дагэтуль у Польшчы ў звыш 120 месцах было знойдзена больш за 180 дзікоў з АЧС, а ў 23 месцах адпаведнымі праверкамі былі выяўлены свінні хворыя на афрыканскую чуму. Летам гэтага года асабліва Гайнаўская гміна стала цэнтральным месцам у Польшчы, дзе ветэрынарныя і іншыя службы сталі змагацца з АЧС. Меркавалася, што заражэнне магло прыйсці ад дзікоў, якія з гэтай хваробай знаходзіліся між іншым у Белавежскай пушчы. Нежывыя дзікі знаходзіліся раней таксама ў іншых месцах непадалёк польска-беларускай мяжы. Калі я ехаў у вёску Бельшчына каля Дубін, на палях ляжаў ужо снег. Аборы, якія знаходзяцца непасрэдна каля Бельшчыны, пустуюць. Частка свіней, летам гэтага года захварэла на АЧС і ў выніку ўсе свінні былі ўтылізаваны. Пасля ветэрынарныя і іншыя службы прынялі розныя меры асцярожнасці, каб хвароба не распаўсюджвалася. Вакол Бельшчыны, але таксама вакол Гайнаўкі, былі раскладзены палавікі з дэзынфекцыйнымі хімікатамі. Удалося ў гэтым месцы стрымаць распаўсюджанне АЧС за кошт спынення гадоўлі свіней у Бельшчыне і абмежавання або нават спынення свінагадоўлі ў наваколлі.

— Аборы ў Бельшчыне збудаваў Сельскагаспадарчы прадукцыйны кааператыў, які па-нашаму называлі калхозам. Быў ён заснаваны нашымі сялянамі. Калі ён стаў абанкручвацца, гаспадары выступілі з яго і сваю зямлю забралі сабе. Аборы і зямля перайшлі на дзяржаўную ўласнасць. Аборы купіў прадпрымальнік, які гадуе свіней у Новым Беразове і тут таксама стаў іх гадаваць. У аборах гадавалася нават больш за дзвесце свіней. Калі яны захварэлі на чуму, былі ліквідаваны адпаведнымі службамі, — сказала жыхарка Бельшчыны. — Пасля адбылася дэзынфекцыя абораў і іх наваколля і на дарогах па абодвух баках вёскі былі расланы палавікі з нейкімі хімікатамі, якія мелі дэзынфекаваць колы машын. Палавікі ляжалі пад сорак дзён і наперамен прыязджалі пажарнікі з Махнатага і Новага Корніна ды нечым іх палівалі.



Афрыканская чума свіней першапачаткова была пацверджана ў 1903 годзе ў Паўднёвай Афрыцы і стала распаўсюджвацца па свеце. Захворванні на АЧС былі рэгістраваныя ў 1950-1960-х гадах у Еўропе, а ў 1970-х гадах у Цэнтральнай і Паўднёвай Амерыцы. У 2007 годзе было пацверджана многа выпадкаў афрыканскай чумы свіней у Грузіі і гэтая хвароба, між іншым праз Расію, стала перамяшчацца ў напрамку Беларусі і Украіны. Толькі ў Расіі было зарэгістравана звыш 500 ачагаў захворвання на АЧС, якая перамясцілася ў Беларусь, а ў пачатку 2014 года — у Польшчу. Цяпер новыя працы ў напрамку абвастрэння прынцыпаў біясекурацыі ў адносінах да гадоўлі свіней набліжаюцца да канца. У выніку паявіліся прапановы, каб асобы, якія на тэрыторыі абвостранага кантролю гадуюць свіней нават у невялікай колькасці, вялі кнігі ўваходу і выхаду з аборы або хлява і рэгістравалі ўсе машыны, якія ўязджаюць і выязджаюць з панадворка, а той абавязкова павінен быць агароджаны мураваным плотам або сеткай з падмуркам. Прадугледжваецца, што на выкананне агароджаў будзе адведзена некалькі месяцаў часу, паколькі ў зімовы перыяд складана было б ставіць агароджы. Іншыя новыя патрабаванні трэба будзе ўвесці ў хуткім часе. Прадбачваецца, што ветэрынарныя службы будуць маглі штрафаваць жывёлаводаў або нават забараніць гадоўлі свіней, калі гаспадары не будуць прытрымлівацца абвостраных прынцыпаў гадоўлю. Гаспадары, якія гадуюць па 5-10 свіней, а нават па некалькі штук апасаюцца, што будуць мусілі ліквідаваць гадоўлю цалкам, калі не змогуць трымацца абвастрэнняў. Частка гаспадароў на тэрыторыі жорсткага кантролю ўжо ліквідавала гадоўлю свіней з-за ўведзеных раней абвастрэнняў.

— У нас парасілася мацёра і мы прадавалі парасяты на рынку, а адкормленых вепрукоў прадавалі або калолі самі. Зараз такія жорсткія ўмовы, што мы цалкам спынілі гадоўлю свіней. Калі б не рашыліся на гэта, мусілі б высцілаць палавікі, палітыя адпаведнымі хімікатамі перад усімі варотамі, праз якія можна ўехаць і ўвайсці на наш панадворак, а таксама перад двома дзвярыма ў аборы, дзе гадаваліся свінні і парасяты. Трэба было б таксама трымацца ўсялякіх іншых сродкаў асцярожнасці, што тычацца корму для свіней, — сказала жыхарка вёскі Тапаркі Кляшчэлеўскай гміны. — Раней ветэрынар з Кляшчэляў Ян Корч прыязджаў да нас і браў у свіней кроў, дзеля яе праверкі на прысутнасць віруса АЧС. Калі я цяпер спытала ветэрынара, як доўга будзе ў нас такі жорсткі кантроль, ён параіў мне стрымацца з гадоўляй свіней нават на свае патрэбы, бо будуць мяне кантраляваць, ці трымаюся ўсіх працэдур у зоне з абвастрэннямі.

Інспектар Павятовага інспектарата ветэрынарыі ў Гайнаўцы, ветэрынар з Чыжоў Яўген Кавальчук кроў свіней з наваколля Бельшчыны вазіў для праверкі ў Дзяржаўны інстытут ветэрынарыі ў Пулавах. У выніку аказалася, што афрыканская чума свіней вакол Гайнаўкі была стрымана. Калі пазней у заходняй частцы Падляшскага ваяводства былі зафіксаваны выпадкі свіней хворых на АЧС, расследаванні выклікалі падазрэнне, што прычынай хваробы маглі быць паводзіны людзей, якія без адпаведных дазволаў прывозілі туды парасят з раёнаў захворвання свіней на АЧС. У гэтай справе Акруговая пракуратура ў Беластоку вядзе расследаванне.

**Аляксей МАРОЗ**





# Быць беларусам на Гарадзеншчыне

Калі падчас перабудовы пачалі крыху прыадчыняцца сакрэтныя архівы са сведчаннямі злачынстваў савецкага рэжыму, не ўсе людзі хацелі верыць абнародаваным тады фактам.

І сапраўды, многаму цяжка было паверыць. Не верылася ў абсурдныя гісторыі, якія былі настолькі алагічныя, што чалавечая псіхіка адмаўлялася іх прымаць. Як вось такая, калі нейкі служака, які суправаджаў цягнік са зняволенымі, заўважыў, што аднаго чалавека не хапае. Яму растлумачылі, што той чалавек не вытрымаў пакут пераезду і памёр. І што мінулы канваір сам зняў з вагона бездыханнае цела і адправіў яго куды трэба. Толькі ў дакументах не адзначыў.

У новага канваіра паўстала праблема. Па паперах ён мусіў даставіць у лагер на аднаго чалавека больш, чым было. Можна было паслаць запыт мінуламу канваіру, можна было напісаць рапарт, сабраць паказанні сведак... Але ўсё гэта патрабавала працы. А служака, надзелены вялікай уладай і агнястрэльнай зброяй, працаваць не любіў. І ён проста на адной са станцый у Казахстане прыставіў свой пісталет да галавы мясцовага жыхара ды запіхнуў яго ў вагон са зняволенымі, выправіўшы такім чынам разыходжанне ў лічбах.

Сапраўды, не хочацца верыць, што такое можа быць. Але калі бачыш сённяшнюю гарадзенскую рэальнасць, то ўжо перастаеш сумнявацца ў мажлівасць такога абсурду. Ну хто не ведае гісторыю, што ў старадаўняй Гародні, горадзе са старажытнай прававой гісторыяй і традыцыямі магдэбургскага права асудзілі аднарукага чалавека за тое, што ён пляскаў у далоні. А вось зараз, зноў жа на Гарадзеншчыне, асудзілі чалавека за ўдзел у свіслацкай акцыі, а яго там і блізка не было.

Я не проста так напісаў словы „зноў жа на Гарадзеншчыне". У галіне антынацыянальнай палітыкі гэта асаблівы рэгіён, варты павышанай увагі даследчыкаў. І каб далёка не хадзіць, можна, як гаворыцца, па гарачых слядах глянуць на яго праз прызму свіслацкай справы, якая акурат у самым разгары.

Амаль усе гарадзенцы, якія туды паехалі, каб ушанаваць памяць загінулых за Беларусь герояў, атрымалі позвы ў суд. Неверагодны адсотак. У іншых гарадах Гарадзеншчыны сітуацыя таксама не зацішная. Ужо і суды былі, і прысуды не дзіцячыя. І каторы не быў у Свіслачы, таксама атрымаў па-даросламу.

І што характэрна, гарадзенская дэлегацыя гэтым годам была не самай шматлікаснай. Мінскіх было значна больш. Але пераследаваных там намнога меней. Адчуваецца, што ні праваахоўнікі, ні суды ў горадзе-героі не маюць вялікага жадання караць людзей толькі за тое, што яны з кветкамі і нядаўняй дзяржаўнай сімволікай наведалі магілу нацыянальнага героя. Сярод іх таксама ж ёсць беларусы. І калі і робяць гэта, то як кажуць у народзе, з-пад палкі. Такое ўражанне, што чакаюць, калі хутчэй пройдуць два месяцы, каб з лёгкім сэрцам закрыць гэтую справу, бо час прайшоў.

А ў Берасці суддзя ўвогуле адправіла на дапрацоўку свіслацкі пратакол. На Гарадзеншчыне ж на аналагічных пратаколах народ атрымлівае і ў хвост, і ў грыву.

У іншых рэгіёнах нават дазвол ад улад на правядзенне нацыянальнай беларускай акцыі атрымаць можна. Вось і Слуцкі зброіны чын людзі легальна маглі адзначыць. На Гарадзеншчыне актывісты ўжо нават не звяртаюцца да ўлады. Досвед адмоў багаты.

Даследчыкі даўно ўжо звярнулі ўвагу на антынацыянальны характар нейкай нябачнай, але вельмі ўплывовай рукі на Гарадзеншчыне. І закрыццё беларускіх школак, і выкідванне беларускамоўных выкладчыкаў з універсітэта, і алагічны ціск на нацыянальнасвядомых актывістаў і безліч іншых фактаў ускосна наводзяць на такія разважанні. Такое ўражанне, што гэтая рука не проста выслужыцца хоча, а дзейнічае паводле сэрца свайго. Бо гэта выглядае не проста на службовую актыўнасць, а на нейкую маніякальную асабістую зацікаўленасць.

З якім даследчыкам сённяшняй рэальнасці не размаўляеш, ці з палітыкам, ці з праваабаронцам, ці з пісьменнікам, ці ўвогуле з апалітычным і нейтральным, усе ў адзін голас задаюць адно і тое ж пытанне:

— Што там у вас на Гарадзеншчыне робіцца?

А ты проста, з усмешкай адказваеш:

— На Гарадзеншчыне быць беларусам небяспечна.

**Віктар САЗОНАЎ**



# Сумны канец 2016 года

31 снежня гэтага года ўжо два месяцы мінула ад трагедыі, якая сустрэла маіх малінніцкіх суседзяў Мікалая і Валянціну Гярэзаў. Нагадаем, што 31 кастрычніка 2016 года яны вярталіся з Плёскаў са свята Лукаша. Дачка іх падвезла на дарогу каля Плёсак у напрамку Беластока. Заўважыўшы аўтобус з Беластока ў Малінніку (хацелі вярнуцца ў Маліннікі), яны перабягалі дарогу і тады аўтобус наехаў на спадара Мікалая і Валянціну. Пані Валя ў 67-гадовым узросце загінула на месцы, а спадар Мікалай, якому 69-гадоў, надалей ляжыць у гайнаўскай бальніцы ў коме. Калі я даведаўся пра смерць маёй суседкі, адразу ўзрушыўся. Колькі дабра яны абое нам рабілі. Як было трэба, дапамагалі, чым маглі. Часта нам аддавалі ці то вішні з саду, ці памідоры з агарода. Бацька часта ім араў трактарам агарод. Яны былі больш як суседзі. Мы былі найбольш з імі зжытыя. Мае бацькі сябравалі з Коляй і Валяй. Яны абое былі добразычлівыя людзі, без ніякай зайздрасці. Яны з нікім не сварыліся, усім жадалі як найлепш. Я заўсёды цешыўся, калі ў 2000 годзе пасля атрымання пенсіі спадарства Коля і Валя вярнуліся ў Маліннікі. Пані Валя ўсё жыццё перапрацавала ў беластоцкім бровары «Дайлiды», а спадар Коля — зваршчыкам на будове. Спадар Коля вельмі любіў мне расказваць як працаваў на будовах у былым СССР. Ён закончыў Бельскі белліцэй. Бацька спадара Колі — спадар Мыхаль — быў самым вядомым на ваколіцу kavalём i быў багаты. Ён памёр у пачатку 1990-х гадоў. Ніхто так добра не быў абазнаны ў гісторыі і палітыцы як дзядзька Коля. Я часта размаўляў з імі праз плот, або прыходзіў да іх. Іх панадворак бурліў жыццём. Спадар Коля меў залатыя рукі і часта зварваў бацьку нейкія жалезныя прылады. Яны мелі вельмі задбаны панадворак. Адрамантавалі хатку бацькоў спадара Колі і пасля Вялікадня да позняй восені пражывалі ў Малінніках, а на зіму вярталіся жыць у Беласток. Я вельмі часта ездзіў з імі аўтобусам з Беластока ў Маліннікі. Сусед Коля ад самага ранку не мог усядзець на месцы і цэлы час працаваў. Улетку сусед на веласіпедзе ездзіў у лес па ягады, а восенню — па грыбы. Летнімі суботнімі вечарамі з іх хаты было чуваць «Падляшскі канцэрт пажаданняў» на Радыё Рацыя. А калі прыязджалі да іх дочкі з зяцямі і ўнукамі і калі рабілі грыль, то на іх панадворку гучала беларуская музыка. Спадар Коля вельмі любіў песні гурта «Ас». Любіў таксама аглядаць футбольныя і валейбольныя матчы, пра якія часта размаўляў з маім бацькам. Перад смерцю пані Валя казала маёй маме, што яшчэ хацела б пагуляць на вяселлі сваіх унукаў... Апошнім часам я быў у іх хаце ў канцы верасня. Тады мы з суседам глядзелі тэлеканал «Россия24» і гутарылі. Я не спадзяваўся, што апошні раз у жыцці бачу паню Валю... У нядзелю абое хадзілі на багаслужэнне ў царкву ў Малінніку. А зараз на іх панадворку сумная цішыня. Нейкая пустэча ў сэрцы і прыкрасць, што менавіта іх сустрэла так вялікае няшчасце. Такіх добрых, шчырых, сардэчных і добразычлівых людзей! Калі я даведаўся, што сусед Коля памёр, я аж заплакаў. Чаму, Божа, заўчасна адбіраеш з жыцця так добрых людзей?! Аднак другі сусед сказаў, што гэта плётка, а спадар Коля яшчэ жыве. Я вельмі любіў з суседам паразмаўляць пра палітыку. Ён часта пазычаў мне газеты і кампакт-дыскі з беларускімі песнямі. Малюся толькі аб адно, каб спадар Коля выжыў, абудзіўся з комы і вярнуўся ў Маліннікі. Каб нанава яго панадворак ажыў. Шчыра спачуваю дочкам спадарства Колі і Валі са смерцю пані Валі. Гэта вялікае няшчасце для ўсіх Маліннік. Шкада, што так вялікае няшчасце сустрэла маіх суседзяў.

**Юрка БУЙНЮК**



Сваімі вачыма

# След жыцця

Чарговы дзень барабаніць у шыбы снежанскі дождж. Да чаго ж дайшло пасля ўжо першай Раждзественскай каляды! Аніякай снежнай завірухі, ці мяцеліцы з гурбамі снегу і маразамі сама меней пад мінус дваццаць градусаў. Пра сонца і ясны месяц, што сваімі промнямі казытаюць цішыню палатна бязмежнай беласці, застаецца забыць ці мо марыць. Усе вакол шчабечуць пра нейкія касмічныя, магнітныя буры, ад якіх як мухі падаюць людзі і мабільнікі. Цана чалавечага жыцця, зведзеная да некалькіх рысак батэрыйных імпульсаў усіх тых сённяшніх прычындалаў. Увесь час падзараджваюцца толькі палі людской абыякавасці. Крыша едзе ўсім. Найбольш загартаваныя, жыццёвыя цвердуны раптам апынуліся на мяжы неўрозаў і псіхозаў.

А вецер гудзе дзіўным, пранізлівым віскам, быццам усе нячысцікі хацелі ўвесці ў пералякі і жахі чалавечае племя. Нейкім чынам раптам дамовіліся яны зайграць у адзін голас на свістунскай дудцы.Чартоўскае вяселле, або апошні раз зашмаргнулася камусьці на шыі пятля жыцця. «Нядобры гэта знак», — шэпчуць ціхенька паміж сабою апошнія старажылы падляшскай прасторы. З неўтаймаваным пералякам хрысціцца некалькі разоў у дзень, адначасна сплёўваючы праз левае і правае плячо. Баяцца ўгнявіць Усявышняга сваёй паганскай прыроднасцю, а яшчэ больш саромеюцца насмешак з боку сваіх дзяцей і ўнукаў. Тых некаторых, што ўсе розумы свету з'елі і памаленьку ад гэтага самі з глузду з'язджаюць. Дзеці павінны спрачацца з бацькамі. Але ўзвялічацца над спакоем іхняга ўнутранага космасу, гэта расцярушыць сябе і чалавецтва ў пыле забыцця. Таму бабулі і дзядулі астаткамі сіл надалей паломнічаюць, вымольваюць дома, у цэрквах і манастырах здароўе, надзею і сэнс жыцця сваім нашчадкам і іхнім сем'ям. Але сіл ужо не хапае. Дык яшчэ не наўпрост, але перад самімі сабою, шторазчасцей сумняваюцца. Ці не надарэмна пражылі мы жыццё? Дзе не прыложыш вуха, рубам стаіць гэтае пытанне. Гэта не шэкспіраўскі выклік прагі жыцця і змагання. Выклік поўны эмоцый і жарсці чалавецтва.

У нас гэта пытанне адміраючай цывілізацыі, якой прыходзіцца пакідаць самую сябе. На нашых вачах заканчваецца працэс адмірання натуральнай, вясковай, касмаганічнай беларускасці Падляшша. Тое, што было нашым беларускім, магічным рэалізмам, пераўтвараецца ў нешта абсалютна неакрэсленае. Сінкрэтызм праваслаўнага і каталіцкага паганства сялянскай нацыі дазваляў выбудоўваць гарманічнасць паміж духоўнасцю і цялеснасцю. Жыццё ў натуральнай, прыроднай стыхійнасці патрабавала развінутай сферы чалавеча-татэмічных узаемадачыненняў. Менавіта і на тым выбудоўвалася галоўная аснова для беларускага культурнага коду злому XIX і XX стагоддзяў. Для сялянскай, беларускай Беласточчыны натуральнасць і жыватворнасць гэтага працэсу расцягнулася яшчэ на пяцідзясятыя і шасцідзясятыя гады мінулага стагоддзя. Адтуль і маем усплёск самабытнай культурнасці таго перыяду.

Таму дзякуй Богу, што шэсцьдзясят гадоў назад на Варшаўскім універсітэце ўзнікла беларуская філалогія, якую ад імя рэдакцыі віншуем з юбілеем. Самае галоўнае, што яе студэнты ў сваіх дыпломных працах зафіксавалі не толькі дыялекталагічны букет беларускіх гаворак Падляшша, але праз сабраную фальклорна-абрадную спадчыну нашых вёсак захавалі і архетыпна-касмаганічнае ўяўленне нашых продкаў. Думаю, што варта было б, каб дзеля будучыні беларускай меншасці ў Польшчы, у двухмоўнай, новай папулярна-навуковай форме распачаць перавыдаваць, напрыклад, серыі гаворак ці фальклору паасобных паветаў. Пры сённяшніх паланізацыйных працэсах такія агульнадаступныя матэрыялы напэўна паспрыялі б зацікаўленню сваёй мінуўшчынай нашых людзей. З другога боку гэта знакамітая магчымасць для ўсіх калектываў на Беласточчыне пакарыстацца натуральным песенным фальклорам сваіх мясцовасцей. Навошта выдумваць порах, калі ён ужо знойдзены. І праблем з песенным імпартам не было б. А найважнейшае, што ўжо гарадская, беларуская меншасць у Польшчы мела б доступ да аўтэнтычнай спадчыны сваіх продкаў. А затым можа будзе і шанц на тое, што наш беларускі след жыцця пакуль не засыплецца пяском.

**Яўген ВАПА**

# **Вёска Цялушкі** *на старонках „Нівы”*



*„Ніва” заўсёды была для мяне важнай крыніцай інфармацыі. Не адзін раз прыйшлося гартаць гадавыя падшыўкі тыднёвіка ад яго першага выпуску ў 1956 годзе. Асноўнай мэтай маіх пошукаў была беларуская літаратура, асобы Мар'яна Пецюкевіча і Мікалая Гайдука.*

„Ніва” зацікавіла мяне таксама як хроніка мясцовасці. І зноў, гартаючы яе старонкі, я знайшла для сябе шмат новага пра вёску маіх продкаў. Гэта вёска Цялушкі, зараз Заблудаўскай гміны, на яе паўднёвай мяжы, над самай ракой Нарвай.

Калі пачала выходзіць „Ніва”, у Цялушках, як і ва ўсіх беларускіх вёсках, бурліла жыццё. Налічвала яна 118 дамоў, а ў кожным сям'я з трох пакаленняў. У вёсцы была школа, якая выконвала таксама функцыю дома культуры і бібліятэкі. „Ніва” тады была амаль у кожнай хаце. Зараз самым папулярным з'яўляецца нумар з календаром. Шмат жыхароў па сёння карыстаецца выключна ніўскім календаром.





Фота Міры ЛУКШЫ

Аказваецца, што вёсцы пашанцавала: яна не адзін раз апынулася на старонках беларускага тыднёвіка. Тут пабывалі журналісты, карэспандэнты, былі і свае аўтары.

Жыхары добра памятаюць, што пісала „Ніва”, асабліва калі інфармацыя датычыла іх самых. Гэта яны мне сказалі, што пад канец пяцідзясятых гадоў друкаваліся гумарыстычныя вершы, у якіх гутарка пра жыццё вёскі, пра чалавечыя адносіны, у якіх усяго хапала. А аўтаркай іх была жыхарка вёскі Надзея Іванюк. Сапраўды, на апошніх старонках тыднёвіка пад псеўданімам І. Ігнатка, Янка Падрэчны, альбо проста з подпісам „Бельскі павет” знайшла я вершы: *Ад вякоў няма там ладу*, *Лапаць пагадзіў*, *Малайцы з Канюкоў*, *Што я чуў у самаходзе*, *Гаворыць Ігнатка*. Якое ж было маё здзіўленне, калі я пачала гэтыя вершы з вуснаў не аднаго жыхара вёскі.

Першы раз пра Цялушкі ў „Ніве” было напісана яшчэ ў 1956 годзе, дзякуючы Г. Грыгаруку з Цялушак — аўтару артыкула *З „Нівай” у руках*. Якраз з яго даведаемся, як у вёску трапляла „Ніва”: „Далёка на ўсход ад шашы Беласток — Бельск, сярод лясоў, распасціраецца вёска Цялушкі. У канцы вёскі, на пясчаным узгорку, стаіць школа. Няма ў гэтай вёсцы ні радыё, ні электрычнасці. Рэдка хто заглядае сюды, акрамя пісьманосца В. Гуралеўскага з паштовага аддзялення ў Рыбалах. Ён сістэматычна, акуратна прывозіць пісьмы і газеты. З вялікай нецярплівасцю чакаюць яго вучні пачатковай школы ў Цялушках. О! Ужо едзе, вязе нам новы нумар „Нівы”, — цешацца дзеці і выбягаюць насустрач пісьманосцу В. Гуралеўскаму”. Гэта дзякуючы настаўніку Хведару Палюховічу, які даказваў бацькам, што гэта іх часопіс, што ў ім шмат цікавага і карыснага.

У 1957 годзе ў „Ніве” быў надрукаваны спіс сарака жыхароў вёскі Цялушкі, якія ўнеслі свае складчыны ў Выдавецкі фонд. Быў ён арганізаваны Галоўным праўленнем БГКТ у 1957 годзе як Беларускі выдавецкі камітэт у Польшчы.

Я. Андраюк у артыкуле *Цялушэцкая моладзь пачынае культурнае жыццё* ў 1958 годзе так пісаў пра вёску: „Вёска Цялушкі (Бельскі павет) вельмі прыгожая. Яе простая і шырокая вуліца, паабапал якой стаяць новыя, крытыя чарапіцай дамы, стварае прыгожы выгляд. Непадалеч хат праплывае рака Нарва, пры якой летам, у цёплыя сонечныя дні, збіраецца мноства моладзі. А што робіцца зімой?”. Аказваецца, што менавіта зімой моладзь замест піць гарэлку і гуляць у карты, звярнулася да настаўніцы Зосі Швайко з прапановай падрыхтаваць тэатральную пастаноўку. Маладыя людзі выступілі перад сваёй публікай з дзвюма п'есамі *Мікітаў лапаць* і *Пярэстая Красуля*.

Цялушкі гэта не проста вёска, дзе людзі займаліся, як у кожнай іншай, сельскай гаспадаркай. Тут яшчэ перад бежанствам садзілі цэлыя палі агуркоў. Гэта быў заўсёды дадатковы, а можа і асноўны, даход. Пад загалоўкам *Цялушэцкія агуркі* нехта (аб) у 1958 годзе пісаў наступнае: „Вёска Цялушкі (Бельскі павет) славіцца не толькі ў сваёй аколіцы, але і на цэлае ваяводства з вырошчвання агуркоў”. Сённяшнія жыхары пацвердзілі, што сапраўды — як пісалася ў „Ніве” — „у месяцы жніўні ў Цялушках можна было ўбачыць толькі неба і агуркі”. Яшчэ дапаўнялі: „жанчыны сядзелі ў полі (у агурках), мужчыны на Бэма (на рынку)”. Сакрат Яновіч, які бываў у вёсцы ў шасцідзясятых гадах, таксама пісаў, што Цялушкі гэта „вёска, дзе растуць слаўныя агуркі, даўно хваленыя гандлёвымі фірмамі”.

Вёска неяк развівалася, будавалася, быў нейкі рух. І так Мацейка ў рубрыцы *Трыбуна чытачоў* у 1963 годзе пісаў, што ў вёсцы будзе крама: „Прыгожы мураваны будынак стаіць ужо на выканчэнні. Усе жыхары з палёгкай уздыхнуць”. Сакрат Яновіч у артыкуле з 1963 года *Навіны з Цялушак* паведаміў, што ў вёсцы паявілася драўляная раміза. Дзякуючы аўтарцы, якая падпісалася як Чытачка, вядома, што ў 1975 годзе была адкрыта лінія ПКС Беласток — Цялушкі. У той час аўтобус заязджаў у вёску чатыры разы ў дзень. Праблема была ў тым, што аўтобусы часта ламаліся і людзі, не дачакаўшыся транспарту, вымушаны былі ісці дзесяць кіламетраў у Рыбалы.

У сямідзясятых гадах у вёсцы Цялушкі бываў Мікалай Гайдук. Яго цікавілі перш за ўсё людзі як носьбіты беларускай культуры. З магнітафонам і фотаапаратам стараўся запісваць як мага больш. У 1975 годзе яго героямі была сям'я Юліі і Уладзіміра Паўлючукоў. У размове пад загалоўкам *І на чатырох гектарах можна...* распавядаюць пра сваю гаспадарку, пра славутае ўжо агародніцтва. Аказваецца, што тады ўжо кожны трэці жыхар вёскі мае машыну маркі „Жук”, на якой можа вазіць сваю агародніну не толькі на беластоцкія рынкі. Будучы ў Цялушках, журналіст пазнаёміўся з Янкам Лук'янюком, які сам без ніякай адукацыі пабудаваў трактар. Пра гэта І. Снарскі ў 1975 годзе напісаў кароткі артыкул *Саматуж зрабіў трактар*. Мікалай Гайдук як адзіны запісаў у гэтай вёсцы песні, якія праспявалі яму Настасія Паўлючук і Марыя Паўлючук. З нотнай транскрыпцыяй Людмілы Панько яны друкаваліся ў „Ніве” за 1975 год.

У сямідзясятых гадах настаўнікам у школе ў Цялушках працаваў карэспандэнт „Нівы” Міхась Матвяюк. Дзякуючы яму можна даведацца пра сельскагаспадарчыя праблемы жыхароў вёскі. І так у артыкуле *Каму сельскагаспадарчыя машыны?* піша, на аснове інфармацыі ад солтыса Паўла Марчука, што сельскагаспадарчаму гуртку ў Цялушках не хапае сельскагаспадарчых машын. З размовы з Ёсіпам Балыгам, надрукаванай пад загалоўкам *Цялушкам мала зямлі*, карэспандэнт піша, што дробным гаспадарам цяжка выкарміць тады яшчэ вялікія сем'і. А зямлі няма адкуль узяць. Альбо проста, Міхась Матвяюк пісаў, што там адбывалася ў цыкле „Кажуць што...”

Быў доўгі перапынак, калі амаль нічога не пісалася пра вёску. У васьмідзясятых не было ўжо школы, будынак пуставаў, пабудаваны драўляны клуб разабралі, моладзь паехала ў горад, краму ГС прадаў...

Аднак у 1995 годзе ў нашу вёску прыехала Ганна Кандрацюк. Яна пацікавілася новымі жыхарамі вёскі — дачнікамі, што пасяліліся на ўрочышчы Сітнікава. Гэта былыя ўчасткі жыхароў вёскі, якія пад канец васьмідзясятых гадоў пачалі прадаваць гарадскім. Журналістка пачула ад жыхара вёскі, былога ільяшоўца, пра прароцтвы ягонага бацькі. Дзед Сцяпан Харытанюк гаварыў, па сёння ўсе пра гэта ведаюць, што над рэчкай будзе горад. Дзіўна, усё гэта так і ёсць. Сёння, пасля гадоў можна адказаць на пытанне, пастаўленае ў загалоўку: *Пагроза ці легенда*. Журналістка пытала, ці новыя пасяленцы не будуць пагрозай тутэйшым. Нічога падобнага, можна сказаць сёння. І вёска, і горад пакуль жывуць у згодзе і ўсе ведаюць, хто гаспадар гэтай зямлі.

Новае жыццё ў вёсцы Цялушкі з'явілася ў новым стагоддзі з новымі ідэямі новага, ужо гарадскога, пакалення: ажывіць будынак школы, ажывіць мінулае, ажывіць памяць. Дзякуючы гэтым думкам з'явіліся цікавыя мерапрыемствы. Пачатак гэтаму даў ураджэнец Цялушак Мірaслаў Каравай, які на канец лета 2014 года сарганізаваў пікнік. У 2015 годзе ініцыятыву перанялі маладыя хлопцы Марк Кульгаўчук і Матэвуш Карнілюк. Потым неяк пайшло далей... Пра гэта пісала Іаанна Чабан у артыкулах *На ратунак школе* (2014) і *Бяседа з Маркам і Матэвушам* (2015). Аўтарка не толькі перадала атмасферу гэтых сустрэч. Дзякуючы суразмоўцам нагадала пра гісторыю школы і яе настаўнікаў. Нагадала пра выстаўку старых здымкаў з вёскі Цялушкі, падрыхтаваную Маркам Карнілюком. Журналістка ў 2014 годзе ў артыкуле *Рэлігійнасць па-цялушэцку* пісала таксама пра вельмі старую традыцыю ў вёсцы — абыход гаспадарак і дамоў на Спаса, калі збіраюцца ўсе члены сям'і.

Гэта толькі адзін прыклад гісторыі, запісаны журналістамі „Нівы”. Колькі яшчэ вёсак і мястэчак мае сваю гісторыю на старонках „Нівы”? Для тых, хто цікавіцца, рэкамендую гэтую крыніцу.

Усім супрацоўнікам „Нівы” жадаю сілы, энергіі, каб працягваць вандроўкі па нашых мясцінах. Зычу таксама як найбольш цудоўных сустрэч з апошнімі аўтэнтычнымі іх жыхарамі.

**Гражына ХАРЫТАНЮК-МІХЕЙ**

*(даклад быў прачытаны ў час юбілею 60-годдзя «Нівы», 26 лістапада 2016 г.)*

# Дзе гэтыя права і справядлівасць?

У сучаснай рэчаіснасці, дзе царыць насілле, разбой і гвалт, цяжка прыходзіцца жыць добрасумленнаму чалавеку. Няма да каго звярнуцца за дапамогай. Раней можна было паслаць скаргу ў канцылярыю Заступніка грамадзянскіх правоў або ў Канстытуцыйны трыбунал. Зараз гэтыя ўстановы сталі недзеяздольнымі перад законамі Права і справядлівасці. Парламентарная большасць падпарадкавала сабе пракуратуру, публічныя масмедыі, цэнтральныя ўстановы і з'яўляецца «панам жыцця і смерці» звычайных Кавальскіх. Устаўналівае яна неканстытуцыйныя законы, не рэагуе на грамадскую і еўрапейскую крытыку. Каму затым паскардзішся, чалавеча Божы? На парламенцкіх абраннікаў народа нельга разлічваць, на правасуддзе таксама. Адзін садом і гамора. Кумаўство, прадажнасць — прыкладаў хоць адбаўляй. Доказам гэтаму варшаўская «дзікая» рэпрыватызацыя. Права і справядлівасць у час выбарчай кампаніі абяцала грушкі на вярбе — добрую змену і паляпшэнне сацыяльнага становішча звычайных грамадзян. Прысягаючы ў парламенце, кожны з іх выказваў словы «Так мне дапамажы, Божа». Усявышні дапамог ускараскацца ім на п'едэстал улады. А які рэзультат маем? Восьмая запаведзь напамінае: «Не сведчы фальшыва супраць бліжняга твайго». А што сабою прадстаўляюць парламентарныя пасяджэнні? Хопіць паглядзець тэлевізійныя трансляцыі. Адны паклёпніцтвы, фальшывыя абвінавачанні, крывадушнасць. Пішу гэты допіс перад гадавым хрысціянскім святам Божага нараджэння. Ці не варта задумацца, паважаныя абраннікі народа, над сваімі (не)хрысцянскімі паводзінамі? Калі лічыцеся хрысціянскім народам, дык шануйце сваіх бліжніх быццам сябе самога.

**Уладзімір СІДАРУК**




# Дар сэрца

У Нараўчанскай гміне Гайнаўскага павета ёсць шмат пачэсных донараў. Яны аддаюць кроў для ратавання жыцця іншых. Пра іх трэба гаварыць і пісаць у газетах.

28 лістапада былі яны запрошаны на сесію Гміннай рады ў Нараўцы. Войт гміны Мікалай Павільч і старшыня Гміннай рады Андрэй Мядзведзь уручылі заслужаным пачэсным донарам рэчавыя ўзнагароды.

Атрымалі іх Мечыслаў Грыц і Юрка Езёрак з Нараўкі ды Яланта Лаўрыновіч са Стачка (аддалі яны па 18 літраў крыві); Давід Барташук і Славамір Каліноўскі з Міклашэва (аддалі па 12 літраў «дару сэрца»); Наталля Чарнецкая і Славамір Харкевіч з Нараўкі, Данель Гіншт са Скупава, Павел Ластавецкі з Замоша, Міраслаў Русакоў з Тарнопаля, Павел Скепка з Забрадоў, Данель Савіцкі са Свінароў, Анатоль Сухадола са Старога Ляўкова, Міхал Сухадола са Слабодкі і Пётр Валкавыцкі з Заблотчыны (аддалі яны па 6 літраў крыві).

**(яц)**

# Сухаволя трох культур і... беларускай



**Хоча асацыявацца не толькі з геаграфічным цэнтрам Еўропы, але таксама з цэнтрам культур. Сухаволя з пачаткам 2018 года пачне новы культурны перыяд. Гэтаму садзейнічаць будзе адкрыццё Цэнтра трох культур. Два мільёны злотых мае каштаваць мадэрнізацыя старога будынка аўтавакзала ў цэнтры мястэчка і стварэнне там музея і пункта турыстычнай інфармацыі. Ініцыятыва гміннага самакіравання прайшла ў рамках праекта «Interreg Польшча-Літва». Хоць цэнтр засяродзіцца на папулярызацыі трох культур: польскай, татарскай і яўрэйскай, плануецца таксама звярнуць увагу на прысутную тут беларускую культуру.**

**Уршуля ШУБЗДА: — Скуль канцэпцыя стварэння ў Сухаволі Цэнтра трох культур? Якая асноўная ідэя праекта?**

**— Бургамістр Сухаволі Міхал МАТЫСКЕЛЬ**: — Канцэпцыя была створана дзеля таго, каб паўстала месца, дзе мы маглі б прадставіць гісторыю Сухаволі, адначасова ствараючы месца турыстычнай інфармацыі. Турысты ўсё часцей заглядаюць да нас не толькі з прычыны цэнтра Еўропы, але перш за ўсё беручы пад увагу блаславёнага ксяндза Ежы Папялушку. У нас ёсць такі будынак — аўтавакзал, які сёння нявечыць выгляд цэнтра горада і патрабуе перабудовы. Мы вырашылі, што менавіта ў гэтым месцы паўстане ўстанова, у якой мы будзем маглі ганарыцца сваёй культурай, перш за ўсё культурай меншасцей, якія тут пражывалі. Хочам прыгадаць гісторыю даваеннага перыяду, калі наш гарадок быў родны для татараў, яўрэяў... Таксама плануем бліжэйшае супрацоўніцтва з нашымі партнёрамі з Літвы. У рамках праекта паўстане не толькі інфраструктура, але таксама завяжуцца цесныя сувязі: будуць супрацоўнічаць школы, самаўрады. Мэтай з'яўляецца пазнаванне супольнай гісторыі. Вынікам таго будуць публікацыі, у канцы два разы ў год плануем арганізаваць фестывалі культур. Гэта будзе добрая нагода паказаць шматкультурныя традыцыі Сухаволі, прадставіць колішніх жыхароў — яўрэяў і татараў, запрасіць таксама суседзяў з Беларусі і Украіны, каб наогул прадставіць шматкультурны аспект нашага рэгіёна.

**— Не гаворачы пра Ваш тэрмін паўнамоцтваў, але наогул можна сказаць, што гэта інвестыцыя, калі ідзе пра Сухаволю, на меру стагоддзя!**

— Так. Гэта двухмільённая інвестыцыя, але, што самае важнае, яна будзе працаваць цягам многіх гадоў. Праца цэнтра будзе дапасоўвацца да важных для горада падзей, прадстаўляць культурнае жыццё татараў, яўрэяў. Сёння, калі турысты прыязджаюць у Сухаволю, яны нічога пра яе не ведаюць. Шукаюць месца, асоб, якія маглі б нешта ім расказаць пра мясцовасць. Мы хочам іх нечым зацікавіць, затрымаць у нас. Адначасова будзе магчымасць прадаць нейкія сувеніры, уладальнікі рэстаранаў прададуць абеды, уласнікі гасцініц — начлежныя месцы.

**— Дагэтуль складалася ўражанне, што Сухаволя пасля вайны вымазала з памяці гісторыю і нанава шукае сваёй тоеснасці.**

— Сёння, здаецца, амаль кожная мясцовасць прабуе знайсці сваю тоеснасць, шукае чагосьці, што яе адрознівае...

**— Вось Сухаволя ніколі не шукала.**

— Сухаволя мае.

**— Мае? Ну, пабудаваную на кульце кс. Ежы Папялушкі.**

— Кс. Ежы Папялушка, ці духавы аркестр таксама з'яўляецца нашай візітнай карткай, вядомай ужо ад многіх гадоў. Сухаволя — цэнтр Еўропы. Думаю, што іншыя маглі б нам пазайздросціць, што маем гатовыя тэмы для прамоцыі.

**— Але гэта прыклады вельмі сучасныя, не паглыбленыя ў мясцовую гісторыю.**

— Разумею, што важная таксама культурная і нацыянальная тоеснасць. Перш за ўсё павінны аб гэтым ведаць маладыя жыхары нашай гміны. Сухаволя перад вайною была ў палове яўрэйскай. Калі я яшчэ працаваў у школе, нам удалося знайсці каля тысячы здымкаў, якія прадстаўлялі жыццё яўрэяў нашага мястэчка. Дрэмлюць тут розныя стэрэатыпы, а мы хочам ламаць іх. Ну, было так, што з непакоем зладзілі выстаўку ў вокнах колішняй бажніцы. Здавалася, што хтосьці яе знішчыць. Аднак такога не было, людзі прыходзілі, аглядалі, старэйшыя ўспаміналі суседзяў-яўрэяў. Маю ўражанне, што тыя стэрэатыпы, гэта ўжо прывіды мінулага, а на будучае глядзім па-іншаму.

**— Хочаце засяродзіцца на яўрэйскай, татарскай і польскай культурах ды ўзгадваеце яшчэ літоўскую?**

— Так. Літоўская, таму, што сам праект «Interreg Польшча-Літва» схіляе да супрацоўніцтва з той жа дзяржавай. Як аказваецца, Кальварыя, горад з якім будзем супрацоўнічаць, меў вельмі падобную гісторыю як Сухаволя — там таксама было гета, была сінагога і яўрэі складалі большую частку жыхароў гарадка.


Фота Аляксандра Вярбіцкага

**— А чаму надалей выцясняецца беларуская культура? У Сухаволі нарадзіўся беларускі грамадскі дзеяч Адольф Зянюк. Як ведаеце, тут і сёння людзі карыстаюцца дыялектам беларускай мовы.**

— Так. Добра памятаю нават сваю бабулю, якая на той жа «простай» мове да мяне звярталася. Я таго не баюся! Менавіта ідзе пра тое, што наш цэнтр будзе таксама даваць магчымасці, каб весці нейкія даследаванні. І тут падказваеш цікавую прапанову, каб заняцца і гэтай культурай. Пра гэта ідзе, каб пакорпацца яшчэ глыбей і не толькі канцэнтравацца на трох культурах, тых, якія згадалі мы ў нашым праекце. Хочам таксама гаварыць аб іншых культурах, як падказваеш, аб беларускай, пра якую, не ведаю, хіба ніхто гэтага не даследаваў.

**— Пра Зянюка, як і многіх беларусаў Сакольшчыны, пісала праф. Лена Глагоўская.**

— Калі ў Сухаволі нарадзілася асоба, якая мела ўплыў на развіццё беларускай культуры, тым больш варта. Асабліва, што сёння маем партнёраў з Беларусі, з якімі хочам дзейнічаць у рамках трансгранічнага праекта «Польшча-Украіна-Беларусь».

**— Толькі трэба ведаць з кім супрацоўнічаць, бо беларусы з Беларусі самі маюць праблемы са сваёй культурай, мовай і тоеснасцю з-за палітыкі Лукашэнкі.**

— Разумею, аб чым гаворыш. Апошнім часам, будучы ў камандзіроўцы ў Мінску, адзін з чыноўнікаў выказаў спачуванні па прычыне эканамічнага і культурнага крызісу ў Польшчы.

**— І што Вы адказалі?**

— Дзякую (*смех*).

Тэкст і фота **Уршулі ШУБЗДЫ**

# **Мастацтва**, якое схіляе да рэфлексіі

**9 снежня гайнавяне мелі нагоду пазнаёміцца з мастацтвам беларускага маладога пакалення. У Музеі і асяродку беларускай культуры адбылася сустрэча з Паўлам Грэсем. Мастак з Гарадка, вядомы сваёй дзейнасцю ў галіне фатаграфіі ды спалучэння яе з відэаартам, запрэзентаваў свае дакументальныя фільмы «Палімпсэст» і «Сведка гісторыі». Карціны былі створаны на пачатку дэкады, але ў сферы грамадска-палітычнай сітуацыі найбольш актуальнымі аказваюцца менавіта цяпер.**

Несумненна, дзейнасць Паўла Грэся вядомая на роднай Беласточчыне. Былі калектыўныя ды персанальныя выставы яго прац у Беластоку, Меляшках ды ў Крынках. Яшчэ больш выстаў было па-за Беласточчынай: шмат разоў працы фотамастака прэзентаваліся ў Варшаве, а таксама ў Лодзі, Любліне ды ў Сопаце. Ягонае мастацтва заіснавала таксама ў такіх еўрапейскіх гарадах, як Прага ці Берлін.

— «Палімпсэст» гэта карціна, якая тычыцца асобы Эвы Галушкі — апазіцыйнай дзяячкі перыяду паўставання «Салідарнасці». Яна была вельмі блізка звязана з ксяндзом Ежы Папялушкам, — кажа Павел Грэсь. — Святар для палякаў з'яўляецца своеасаблівай іконай, святой асобай, што нясе істотныя каштоўнасці, якія збудавалі сённяшняга паляка. А для мяне, беларуса, задачай было паказаць праўду асобы, якая існавала таксама сярод другога асяроддзя — нашага. Стаў ён больш вядомай асобай асабліва тады, калі аказалася, што ён лічыць сябе беларусам. Гэта стала вядомае шмат гадоў пасля ягонай трагічнай смерці. Аб гэтым факце можна было даведацца ў медыях (прыкладна на Радыё Рацыя), аб гэтым гаворыцца і ў маім фільме. Эва Галушка звяртае ўвагу на тое, што ксёндз Папялушка да 14 года свайго жыцця не гаварыў на польскай мове. Аказваецца, што гэтая беларускасць была ў ім. Адначасова можна прыкмеціць, што мусіла прайсці многа гадоў пакуль ён — здаецца, свядомы чалавек — дайшоў да вываду, што таксама беларускасць мела для яго значэнне — і сямейнае, і асабістае. Акцыя другога фільма, «Сведка трагедыі», адбылася ў Цэнтры сучаснага мастацтва ў Варшаве. Гэта была вечарына, дзе ў рамках свайго праекта запрасій я ў якасці галоўнага госця Пятра Младзяноўскага з Залешанаў. Гэты пажылы мужчына асабіста бачыў трагедыю 29 студзеня 1946 года, калі атрад Рамуальда Райса «Бурага» пацыфікаваў ягоную вёску. Пра гэтую падзею ён расказвае сабранай у галерэі публіцы на мясцовым залешанскім дыялекце. Гэта своеасаблівая канфрантацыя яго, сведкі падзей, з сучаснай публікай — статыстычнымі польскімі гледачамі, якія прыходзяць у галерэю ў пошуках новых якасцей.

Творчасць Паўла Грэся стала часткай серыі «Слоўнік беларускіх мастакоў», якая ствараецца Беларускім музеем у Гайнаўцы.

— Такі выбар з нашага боку невыпадковы, — лічыць дырэктар музея Тамаш Ціханюк. — У «Слоўніку беларускіх мастакоў» хочам паказваць таксама маладое пакаленне беларусаў-мастакоў, а прадстаўніком яго напэўна з'яўляецца Павел Грэсь. Гэта таксама вартасная ды істотная асоба для тых, якія хочуць знаёміцца з беларускім мастацтвам у Польшчы. Магчыма, што большасць людзей, зацікаўленых мастацтвам, ведаюць Паўла як творцу, які займаецца перш за ўсё фатаграфіяй, аднак ён настолькі таленавітая асоба, што здымаў і рэжысіраваў таксама фільмы. Мы рады таму, што яго тут госцім і прадстаўляем плён ягонай працы.

Апрача істотнага зместу, абедзве карціны прыцягваюць увагу сваім эфектам засяроджанасці апаратара камеры на чалавеку — герою фільма. У выпадку «Палімпсэсту» стварылася ўражанне, што голас, важны змест гучыць, гледачы гэта чуюць, але адначасова асаблівую ўвагу камеры Павел накіраваў у напрамку твару ды ўвогуле постаці Эвы Галушкі. Хаця праз цэлы фільм не бачна, што яна выказваецца (то-бок няма руху вуснаў, толькі позіркі), такім чынам таксама ствараецца своеасаблівы змест. Падобныя матывы можна знайсці ў «Сведку гісторыі», дзе таксама як у папярэднім выпадку герой ёсць маўклівы, паказаны ў розных месцах. Хаця тут разам з узгаданымі матывамі гэтаксама істотныя з'яўляюцца фрагменты, дзе паказаны Пятро Младзяноўскі падчас расказу аб падзеях пачатку 1946 года. У абодвух фільмах звяртае ўвагу таксама шматлікасць дэталяў.



■ Злева: Тамаш Ціханюк і Павел Грэсь

— Я — чалавек адсюль, тутэйшы, з Гайнаўшчыны. Таму і ўсё, што адбываецца ў гэтым раёне ў культурніцкім плане, цікавіць мяне і стараюся нічога не абмінуць, — кажа Уладзімір Мусько. — Прыйшоў час пазнаёміцца з творчасцю Паўла Грэся. Шчыра кажучы, раней я нейк не меў нагоды гэтае зрабіць.

— З мастацтвам Паўла я ўжо мела магчымасць сутыкнуцца. Пару гадоў таму я бачыла выставу ягоных фатаграфій у Беластоку, — кажа Ганна Скаўронская. — Быў гэта адзіны кантакт з яго творчасцю. Мне асабліва падабаюцца фатаграфіі храмаў. Бачна, што на гэтых здымках ён стараецца звярнуць увагу на дэталі. Аднак калі ідзе пра фільмавую творчасць, гэта мой першы кантакт з ёю.

Хаця «Палімпсэст» і «Сведка гісторыі» паўсталі адпаведна ў 2012 і 2011 гадах, іхні змест найбольш актуальны менавіта цяпер. Таксама невыпадковымі былі час і месца дэманстрацыі фільмаў, лічыць Павел Грэсь:

— Важнае, што прэзентацыя адбываецца якраз у Беларускім музеі ў Гайнаўцы. Тут істотнай справай з'яўляецца таксама час, у якім мы зараз знаходзімся. Маю тут на думцы атмасферу, якая пануе ў Гайнаўцы, але таксама ўвогуле ў Польшчы. Справа тут у падыходзе нацыяналістычных арганізацый ды польскай дзяржавы да розных меншасцей, у тым ліку і да беларускай. Фільмавы матэрыял не новы, але ў ім важны кантэкст сённяшняга дня. Тэмы, якія творча былі для мяне важнымі пару гадоў таму, для гледача зараз становяцца больш актуальнымі. Сёння ў дзяржаўных СМІ неаднойчы можам пачуць мноства няпраўды, прыкладна на тэму гэтак званых выклятых жаўнераў. Хачу, каб людзі не здаліся гэтай таннай прапагандзе. Акрамя таго прыкмячаю, што ў Гайнаўцы, дзе шмат праваслаўных беларусаў, увогуле праваслаўнага насельніцтва, не падымаецца пытанне «што далей, што на будучыню?», падчас калі атмасфера ў гэтым горадзе не ёсць добрая і гэта не будзе.

«Палімпсэст» і «Сведку гісторыі» можна глядзець у Беларускім музеі да 16 снежня. Акрамя вынаходлівага прадстаўлення герояў і дбайнасці пра візуальныя эфекты, перадаюць яны істотны пасыл. Фільмы Паўла Грэся паказваюць, што Падляшша — разнастайнае ў сваіх канфесіях, рэлігіях, этнічных ды нацыянальных прыналежнасцях, таму варта клапаціцца пра ўсё гэта. Нельга таксама маўчаць калі тая разнастайнасць парушаецца, не павінны маўчаць і сведкі такіх актаў.

**Тэкст і фота Мацея РАЦІНЕЎСКАГА**




# Весткі з Орлі

На XVI сесіі Гмінная рады ў Орлі, якая адбылася 30 лістапада г.г., войт Пётр Сэльвесюк паінфармаваў пра рэалізацыю задач гміны.

**Новы стадыён**

16 лістапада была прынята частка будаўнічых прац у рамках „Перабудовы спартыўнага аб'екта запар з выкананнем лёгкаатлетычных установак з суправаджальнай інфраструктурай" у Кашалях. Вартасць прац 451 410 злотаў. Быў выкананы травяны насціл поўнагабарытнай гульнявой пляцоўкі, устаноўка для штурхання ядра, устаноўлена два раздзявальныя кантэйнеры, устаноўлена футбольныя вароты, спартыўныя трыбуны, лаўкі для запасных гульцоў, выканана мячазаборныя сеткі ды агароджу з боку гміннай дарогі. 18 лістапада войт падпісаў дамову з Міністэрствам спорту і турызму на дафінансаванне інвестыцыі. Кошт задачы — 478 500 злотаў, у тым ліку дафінансаванне з МСіТ 148 900 зл. Поўнае завяршэнне прац і прыём інвестыцыі да 31 чэрвеня 2017 г. Дадаткова, па-за праектам, даручана выкананне агароджы з астатніх трох бакоў пляцоўкі за 42 100 зл.

**Абнавілі**

19 лістапада 2016 года вярнулася на сваё месца ў Шчытах-Дзенцялове абноўленая скульптура святога Яна Непамуцкага. Кошт абнаўлення — 55 тысяч злотаў. На гэтую суму 35 тысяч прызначыла Маршалкоўская ўправа Падляшскага ваяводства, 18 тысяч было з бюджэту Арлянскай гміны і дзве тысячы ўнёс Фонд імя Валента Венгерскага са Шчытоў, які быў ініцыятарам абнаўлення.

**Ігнараваны юбілей**

15 кастрычніка 2016 года калектыў „Арляне" адзначаў 70-гадовы юбілей. Гэта адзін з найдаўжэй дзеючых народных калектываў Падляшша. Нягледзячы на пасланае запрашэнне, асабліва спадару ваяводу, які мае ўпаўнаважанага па справах меншасцей, ніхто ад імя ваяводы на гэты юбілей не з'явіўся. Ніхто нават не пакваліўся накіраваць віншавальны ліст. Я ўспрымаю гэта як выяўленне трактоўкі меншасцей цяперашнімі ўладамі, — падкрэсліў войт.

**Запісаў Міхал МІНЦЭВІЧ**

# Вернісаж ручной вышыўкі

7 снежня ў Гмінным асяродку культуры ў Чаромсе адбыўся вернісаж ручной вышыўкі. Экспанаты запрэзентавалі пятнаццаць рукадзельніц, у тым ліку Валянціна Яфімюк, Ірэна Цімафюк, Альжбета Глухоўская, Яланта Галімская, Галіна Міхалюк, Аліцыя Багушэўская, Нэля Касачук, Людміла Саевіч, Валянціна Саласцюк, Галіна Баравік, Валянціна Сідарук, Крыстына Мазалеўская, Галіна Баранава, Бернардэта Гіль і Тарэса Закшэўская. На выстаўцы прэзентуюцца сурвэткі і настольныя сурвэты, карункі, таксама гафты выкананыя кручком ды крыжыкавай вышыўкай. Выстаўка будзе даступнай да 17 снежня. Напярэдадні заканчэння выстаўкі, 16 снежня з 10 да 18 гадзіны адбудзецца перадсвяточны кірмаш прэзентаваных вырабаў. Запрашаем у Чаромху на цікавае мерапрыемства.

**(ус)**



Ганна Кандрацюк (zorka@niva.bialystok.pl)

www.e-zorka.pl

# зорка

для дзяцей і моладзі


# СОН МАРТЫ

Зусім нядаўна жыла ў Крынках дзяўчынка па імені Марта. У летні суботні поўдзень выбралася яны на шпацыр у недалёкі парк. Думала, думала так і не прыдумала адкуль узяліся яе родныя Крынкі. Ужо змяркала, час вяртацца дахаты. Стаміўшыся роздумамі, заснула ў той вечар надзвычай моцным сном.

— Ці гэта мне сніцца? — пытае сябе дзяўчынка. Падыходзіць да акна. Нехта кліча яе мяккім, добрым голасам

— Выйдзі да мяне, калі ласка, я цябе чакаю.

Дзяўчынка крыху баіцца, але выходзіць. На небе ні зоркі, ні месяца. За варотамі стаіць дзядулька з доўгай сівой барадой і ў такім жа доўгім кафтане.

— Я — Рабін, — гаворыць ціха, — прыйшоў забраць цябе ў прошлае тваіх Крынак.

Марта даверліва працягвае сваю далонь і зараз яны пралятаюць у невялікую мясцовасць з адной толькі вуліцай і адным касцёлам. Спакойны шпацыр па вёсачцы прабіваюць нейкія незнаёмцы. Іх твары злыя, злыя позіркі, злыя задумы. Хутка набліжаюцца да дзяўчынкі і Рабіна.

— Уцякайма! — Рабін бярэ далонь Марты і разам, бяспечна ўздымаюцца ў хмаркі. Спускаюцца ў пусты знішчаны горад. Паветра пахне тут дымам вінтовак і згарэлых дамоў.



Вікторыя Яновіч і яе карцінка „Сон Марты”



— Што тут здарылася? — пытае спалоханая дзяўчынка.

— Вайна, — адказвае з сумам Рабін.

І тады кароль паклікаў яўрэяў, каб адбудавалі горад. Зараз узніклі прыгожыя, шматпавярховыя камяніцы,рэстараныз крыштальнымі сценамі і лямпамі, багата размаляваныя сінагогі, крамы, фабрыкі, у тым ліку гарбарні.

— Мне ўжо пара, — кажа Рабін. — Дзякую за тое, што ты захацела пазнаць гэтую гісторыю.

— І я вам дзякую, — адказвае Марта.

Рабін усміхаецца на развітанне.

— Толькі не забудзь, каб.....

Захаплялььны сон канчаецца. Не пачула яго апошніх слоў, але, здаецца, ведае, што хацеў ёй сказаць.

**Запісала Вікторыю Іаанна ЧАБАН**

*Міра ЛУКША*

## Абляпіха

*Куст калючы, разгалінастае дрэва*
*ўчэпіцца і ў слабенькую глебу.*
*Нават на пясках сваім спевам*
*хваліць будзе жыццё аж да неба.*
*Добра, калі як муж з жонкай*
*абляпіхі побач паруюць*
*і на галінках гнуткіх і гонкіх*
*сонечныя шарыкі шчыльна гадуюць.*
*Проста з голля тыя бубкі зрываем,*
*што абселі яго ўсцяж, абляпілі,*
*ананасавага паху, здароўя шукаем,*
*вітамінаў для моцы, румянасці й сілы.*
*Сок, варэнне, жэле і лікёры,*
*чай, алей і напоі, настойкі... —*
*скарыстае ўсё здаровы і хворы, —*
*ад маразоў і вятроў такі ж стойкі.*
*Не палохай мяне ты шыпамі*
*і дай шчодра кошык напоўніць!*
*Яшчэ засаджу папары кустамі,*
*памятайма — у полах двухдомных.*

*Замкі і палацы Беларусі*

# МУРАВАНКА

## — СЯСТРА СУПРАСЛЬСКАЙ ЛАЎРЫ!

Мураванка — цуд архітэктуры, для многіх самая прыгожая царква Беларусі. Паэты і мастакі бачаць у ёй адбітак краіны перыяду Вялікага Княства Літоўскага. Будоўляпраменіць дастойнасцю і сілай. Яна спалучае ў сабе рысы беларускай готыкі і рэнесансу.

Мураванку пабудавалі ў палове XVI ст. Апрача духоўнага прызначэння, яна мае абарончы характар. Будынак, паводле ўзору замкаў, меў першапачаткова чатыры вежы. У кожнай знаходзіліся пакручастыя сходы, па якіх дабіраліся на абстрэльныя станкі байцы. Сцены царквы таксама маюць рысы крэпасці, іх таўшчыня на два метры. Уваход перасякала жалезная крата, якая надзейна бараніла перад наваламі і варожымі паходамі.



Так ці інакш, царква была абстраляна і пашкоджана ў час Паўночнай вайны. Паводле легенды, на знішчэнне настойваў сам Карл XII. Шведскі кароль не мог наздзіўляцца такой жамчужыне сярод вясковай забудовы. Яшчэ больш хвалявала яго веліч будынка.

Мураванку, ад месца знаходжання, часта называюць Мажэйкаўскай царквой. Яна знаходзіцца ў заходне-паўночнайчастцыГродзенскай вобласці, дакладна 65 кіламетраў ад Гродна. Каб прыцягнуць наведвальнікаў, у будучыні на гарышчы царквы хочуць адкрыць краязнаўчы музей. Жыхары Падляшша атрымаюць тут не толькі духоўную асалоду, але і ўрок жывой гісторыі. Мураванка ў многім нагадвае Супрасльскую лаўру, якую ў канцы вайны ўзарвалі фашысты.

**Зорка**

## УВАГА КОНКУРС!

## № 51-16

**Мыш не мыш, жыву я ў полі,**
**Ветрам дыхаю на волі,**
**За шчакой кішэню маю,**
**Яе зернем напаўняю.**
**Х....**

**(У. Мацвеенка)**

## Загадкі з роднай хаткі

**Адказ на загадку № 48: піяніна. Узнагароды, CD „Наш ліцэй”, выйгралі Наталля Маркевіч, Магдалена Люнда з КШ № 1 у Гайнаўцы, Міхал Тапалянскі з Нарвы, Ніна Місюк з КШ свсв. КіМ у Беластоку. Віншуем!**

Разгадайце загадкі, адказы дашліце ў „Зорку” да 1 студзеня 2017 г., найлепш па электроннай пошце. Тут разыграем цікавыя ўзнагароды.

# «Пэрцэпцыя» ў Гайнаўцы


http://www.lozbjn.edu.pl

Снежань для 3 «а» класа Гімназіі з дадатковым навучаннем беларускай мовы ў Гайнаўцы пачаўся неспадзяванкай. У школу, па запрашэнні спадарыні Ірэны Ігнатовіч, прыбылі маладыя людзі з Бельскага беларускага ліцэя, каб расказаць гімназістам пра свае зацікаўленні, а таксама пра тое, як яны апынуліся на сёлетнім фестывалі «Бардаўская восень». Гурт «Пэрцэпцыя» складаюць **Магдалена Маліш** і **Міхал Зіноўчык**, якія на конкурсе песеннай паэзіі выступілі першы раз у сваім жыцці і адразу атрымалі ўзнагароду Аб'яднання «Бельская кааліцыя», а таксама прыз глядацкіх сімпатый. І не дзіўна! На сустрэчы з гімназістамі запрэзентавалі яны некалькі песень на беларускай, і не толькі, мове. Дадаткова госці запрапанавалі вучням праспяваць супольна вядомую песню на англійскай мове. Іх выступ зачараваў публіку, тым болей што яны самі з'яўляюцца стопрацэнтнымі аўтарамі беларускамоўных песень! Магдалена піша словы — небанальныя, цікавыя, з глыбокім зместам, а Міхал кампануе музыку. Яна цудоўна спявае, ён умела іграе на гітары. Разам яны ствараюць нешта непаўторнае і вельмі каштоўнае. Госці перасказалі сваім слухачам-гледачам вартасную ідэю — заўсёды трэба змагацца за свае мары і не паддавацца, толькі развіваць свае зацікаўленні, бо, дзякуючы гэтаму, можна апынуцца ў зусім нечаканым месцы і пераджыць неспадзяваныя эмоцыі. Яны — выдатны прыклад гэтаму.

Ведаем, што з зацікаўленнем чытаеце «Ніву», таму на яе старонках яшчэ раз дзякуем Вам, маладыя людзі, за мілую сустрэчу і жадаем поспехаў у далейшым жыцці! Калі ласка, далей працягвайце сваю супольную мастацкую дзейнасць!

**Анна Каліноўская**
**і 3 «а» клас Гайнаўскай белгімназіі**



## Вершы Віктара Шведа



### Чаму спазніўся?

Спытаў настаўнік Лёню:
— Чаму спазніўся сёння?
— Таму што мяне маці
Не абудзіла ў хаце.

— Дык ўжо нам вядома,
Што яшчэ спіш і дома.
Трэба прыдумаць штосці
Каб не праспаў маладосці.

### Рыхтуй бліны, мама

— Мама, што наш татка
Найбольш любіць з'есці?
— Бліны любіць, Тадку,
Памятай урэшце.

— Дык рыхтуй ты зноўку
Бліны, дарагая,
Заўтра нам дыктоўку
Настаўнік звяртае.

## У ашуканца кароткі хвост! (ч.2)
*(казкі народаў Каўказа)*

Зышліся на суд лясныя звяры. Прыйшлі воўк, мядзведзь, зайчык і лісіца.

Доўга чакалі яны вожыка, а яго — ні віду, ні слыху.

Суд узначаліў мядзведзь. Ён расказаў звярам пра спрэчку суседзяў наконт жарабятка. Першае слова далі лісіцы, якая выступіла ў ролі адваката суседа ад воза. Доўга яна прамаўляла і падвяла так:

— Калі жарабятка не падыходзіць да кабылы і ўвесь час стаіць ля воза, значыць яно лічыць саваёй мамай воз!

Калі ліса гаварыла, з'явіўся якраз вожык.

— Чаму ты, вожык, такі абібок, чаму ты спазніўся на такую важную расправу? — накінулася на яго лісіца.

Вожык не разгубіўся.

— Я спазніўся, бо як ішоў да вас, раптам сцямнела неба і ўпаў густы снег. Яго столькі надула, што мае ножкі застраглі, я ледзь выкараскаўся з гурбы і дабраўся да вас. Прашу прабачэння, — закончыў вожык, — мне прыкра, што вы былі вымушаны чакаць мяне.

І тут лісіца ашалела:

— Які дурань узяў такога ашуканца ў адвакаты? Людкове, хто бачыў, каб у сярэдзіне лета снег выпаў? Пра якія гурбы ён гаворыць!

Вожык спакойна адказаў лісіцы:

— Ты ж сама перад хвілінай гаварыла, што воз можа нарадзіць жарабя і быць яму маці. І вельмі хацела, каб усе табе паверылі! Дык чаму для цябе дзіўна, што летам можа ўпасці не толькі дождж, але і снег?

— Твае словы калючыя і агідныя як футра, якое ў цябе на спіне, — прасіпела ашалелая лісіца.

Зашумелі, паспрачаліся звяры. Але канчаткова ўсе згадзіліся, што жарабятка нарадзілася ад кабылы і аддалі яго ўласніку каня. Пасля кожны пайшоў у свой бок, толькі хітры сусед стаяў як стоўп ля пустога воза і не ведаў як рушыць з месца.

*(працяг будзе)*

**(пераклад з рускай мовы Ганны КАНДРАЦЮК)**

## Польска-беларуская крыжаванка № 51-16

Запоўніце клеткі беларускімі словамі. Адказы, з наклееным кантрольным талонам, на працягу трох тыдняў дашліце ў „Зорку". Тут разыгрываем цікавыя ўзнагароды.

**Адказ на крыжаванку № 47:**

Ян, клад, Аксана, рот, кактус, то, крона, ар, ананас, трон, кніга, род, арол, канапа, Ада. Клуня, ток, парк, арда, акно, экран, на, тон, клунак, сасна, шар, Іра, нота, год, матор, Ала.

Узнагароды, аўтаручкі (cienkopisy), выйгралі **Мальвіна Маркевіч** з Бельска-Падляшскага, **Наталля Гайдук, Віктар Лінк, Магда Люнда** з КШ № 1 у Гайнаўцы, **Наталля Главацкая, Аляксандра Асташэўская, Дар'я Стасінкевіч, Мікола Ялоза** з КШ № 3 у Гайнаўцы, **Віялета Смалюк** з Арэшкава. Віншуем!

Kolano, Droga, Inny, Jak, As, Wózek, Ikra, Ganek, Alan, Jan, Inaczej, Sum, i..., Przecinek, Arak, Gwiazda, Nie, Och!, Zima, No, Sen, Śmiech

# «Белавежа» — дачка «Нівы» (ч.II)

Усе беларускія дарогі вялі ў «Ніву»! А тэмы сапраўды былі розныя, ад палітычных захапленняў тым, як «нам добра жывецца», да лірыкі, якую вельмі любіў сам абсалютна лірычны галоўны рэдактар, у той час знакаміты адміністратар і сарганізаваны правадыр. Вось Мікалай Красоўскі з Бельска (9.06.1956 г.) захапляецца «Месячнай ноччу» — гэты верш змешчаны паміж тэкстамі пра «Усходнеславянскія плямёны», пра арганізацыйныя справы Варшаўскага аддзела БГКТ (Юры Туронак) і допісам пра Кастуся Каліноўскага Міхася Чарота з Варшавы. А на папярэдняй старонцы — практычны інструктаж як зрабіць вясковую лазню, допіс пра арганізацыю сельскай гаспадаркі ў пяцігодцы, пра навіны навукі і тэхнікі — між іншым звышмагутныя турбіны ды спаборніцтва двух кааператываў на Семятыччыне... «Ніва» вучыла, інфармавала, усведамляла, бавіла і ўзрушала. Была (і ёсць) нашай хатняй газетай. А ў такую хочацца і пісаць, і чытаць тое, што напісалі іншыя. Сцяпан Луневіч з Беластока з хваляваннем убачыў надрукаваны свой верш «Адзінокая», мабыць, пра сваю самотную суседку. Тут мушу сказаць, што слова мае моц, аб чым, мабыць, не ведаў яшчэ Сцяпан Луневіч, бо замест жаліцца і шкадаваць адзінокую прыгажуню, прымяніў быў літаратурны метад «першага» Баршчэўскага, які вершамі прывабіў сваю Любу, будучую жонку! Дарэчы, гэта ўдалося і Ваціку Асіповічу, калі гаворка пра каханую. Але нават у лірычным вершы пра лён (аж паўстаронкі — першай! — у 17 нумары) і так канчае: «Змянілася ўсё на свеце, / Піці перастаў Лявонь. / Сёння першы ў павеце / Кантрактуе бабам — лён!» А Мікола Красоўскі — як пасля рассакрэціцца што ён з Кназазоў у Бельскай гміне (цікава як склаўся ягоны лёс!) захапляецца далей «Залатой зямлёй». Дзе ён цяпер? Мабыць, не паявіўся на першым заснавальніцкім сходзе пішучых хлопцаў 8 чэрвеня 1958 г. у рэдакцыі «Нівы». Галоўны сабраў іх там — і спелых, якія дэбютавалі яшчэ да вайны (Антон Васілеўскі — Антось з Лепля), і якіх заспела вайна і друкавацца пачалі ў «Ніве» ў сталыя гады як Віктар Швед, які паказаў свой шлях да беларушчыны аж у 1957 г. вершам «Я беларус», і маладзенькія — як бельскі ліэіст Янка Чыквін, і сціплы рэдактар-перакладчык Сакрат Яновіч які ў «Ніве» паявіўся як дваццацігодак...

Але, пакуль мы яшчэ на першых старонках тыднёвіка. Гартаем пажоўклыя крохкія старонкі... Паміж вершамі Цёткі, класікаў і будучых класікаў беларускай літаратуры, таксама нядрукаваных у Беларусі, як у той час спакутаваны ссылкай Сяргей Грахоўскі, і маладзенькі Генадзь Бураўкін, студэнт БДУ, — штораз адважнейшыя радкі нашых тутэйшых паэтаў. Адвагі дадае сам Галоўны. Гэта ён знайшоў у бельскім белліцэі Янку спачатку Дубіцкага, рассакрэціў Сакрата, аб якім ведаў толькі што гэты чубаты чарнявы хлопец — з Крынак, пасля электрычнага тэхнікума, цікавіца тэхнікай ды... заікаецца. Ну, і, вядома, ведае беларускую мову. А Андрэй Сошка выклікаў Валодзю хіба сваім вершам 26 жніўня 1956 г. (№ 26), заклікаючы яго да «калектыву» (у вершы ён... калгасны). А наш Валодзя, Гайдук, з Тарнопаля, і ніколі ён не пойдзе ў кагал, хаця і стане пасля адным з першых членаў літаратурнага аб'яднання. Валодзевы першыя вершы надрукаваны былі 21 кастрычніка 1956 года ў 34 нумары ў рубрыцы «Шукаем талентаў» — «Захад сонца» і «Зіма ідзе»: «І калі (снег) рунь акрые, / Нястрашны вецер ёй, што вые!». А ў наступным — 35 — нумары «Восень у лесе». Дасылае свае вершы і М. Базылюк, засакрэцічшы тое, што жыве ён быццам у Гданьску, і імя сваё (Мікола Дварэцкі). Розныя аўтары, з розным лёсам і жыццёвым досведам, але апынуцца яны ў нашай літаратурнай грамадзе, сабранай Георгіем Валкавыцкім, пасля пад вянцом «Белавежы» і пад першай вокладкай «Руні», што выйдзе ў 1959 годзе як першая сапраўдная літаратурная кніга на Падляшшы... Паявяцца ў «Ніве» вершы Лёні Рудэчкі з Плёсак (для дзяцей), Ягора-Анатоля Хлябіча з Валіл, Валодзі Дарашкевіча з Меляшкоў... Паявяцца творы аўтараў шырэйшага маштабу, як лірыка і крытыка мастака Яшы Бурша (Яна Анісэровіча — Івана Бокшы)... Пісаў Галоўны: «Дзіўнымі маршрутамі хадзіла „Ніва". З цяжкасцю прабіралася на Беларусь, без перашкод трапляла на Калыму. Адтуль пошта дастаўляла ўсхваляваныя лісты. З Краснаярскага краю прыйшлі і вершы „Сібірака" (18.8.1957 і далей). З'явіўся і сам. У доўгай скуранцы (у нас такую насіў толькі салідны Міхась Баравік), пажылы чалавек. — Шэршань! — прадставіўся. Прапаную сесці — не хоча, спяшаецца на цягнік. — Скажыце хоць, што рабілі да вайны? — Настаўнічаў. Вось і ўся гутарка. Не пакінуў нават адрасу». Зачасцяць вершы хлопца з Крушынян Аляксандра Макаля, з Валіл — Анатоля -Ягора Хлябіча, Міколы Базылюка, ды амаль што ў кожным нумары «Нівы» пятнаццацігодка з Тарнопаля Уладзіміра Гайдука, Янкі Дубіцкага (Яна Чыквіна) — вершы і проза, і сямнаццацігадовага хлопца з Меляшкоў, які неўзабаве стане прысылаць вершы з сілезскіх шахтаў — Уладзіміра Дарашкевіча. Паявіцца на старонках яшчэ адзін сваяк-Баршчэўскі — Васіль, які хутка пойдзе ў спелую прозу. Мікола Гайдук, які нясмела пачне як Міка, пачне друкаваць таксама гістарычныя нарысы, што ў працягу дасць цікавыя гістарычныя аповесці. Прыгажуня Зося Busловіч 29 снежня 1957 г. распачне сваю багатую вершаваную творчасць вершам пра «Зіму». З Гарадка адзавецца Восіп Мялеша вершамі пра жыццё і каханне. Пішуць зрэдчас і дзяўчаты, як Вера Буйка з Семяноўкі. Уключаюцца Янка Беразавец (8 верасня 1957 г.) і Андрэй Беразавец (14.4.1958 г.) з Варшавы, Яўген Навіцкі з Юшкавага Груда, Георгій Карэтка прысылае «Ліст з турмы» (2.03.1958 г.), шпарыць лірыку і сатыру нейкі засакрэчаны «Янка Ігнатка з Бельскага павета» — праз гады аказваецца, што гэта дзяўчо, з Целушок — Надзея Іванюк. Пішуць Ніна Шатыловіч і Дзмітрый Шатыловіч з Варшавы (23 мая 1958 г.). Уладзімір Паўлючук з Рыбал — неўзабаве масціты празаік і навуковец, падсылае празатарскія допісы. З Мастаўлян азываецца Анатоль Парэмбскі. З Рэспублікі Комі прысылае свае вершы Сяргей Анішчык («Жыве Радзіма»). Юзаф Рыбінскі (Верас) пачынае працаваць на штаце, прадказваючы вялікі празатарскі талент. Прыходзяць вершы ад Міколы Красоўскага з Аполя (ён папраўдзе з Кленік). Выбухае талент Віктара Шведа, ужо трыццацігадовага, які піша не ад сёння, але калі паяўляецца наша газета, мае дзе друкаваць свае творы. «Я беларус! І гэтым ганаруся!» — абвяшчае ў вершы надрукаваным 24 сакавіка 1957 г. «Квітней наша „Ніва"» — заклікае 1 студзеня 1958 г., заахвочваючы гуртавацца ўсім, хто шануе родную мову. На старонках «Нівы» пасля задэбютуе каля трохсот асоб. «Беларускім паэтам і пісьменнікам патрэбна арганізацыя» — 9 лютага 1958 года закліча С. Я. — Яша Бурш (Янка Анісэровіч — Іван Бокша). І 8 чэрвеня ў рэдакцыі «Нівы» збіраецца «магутная купка» аўтараў, сабраных настаўнікам і калегам Георгіем Валкавыцкім.

Пісаў ён на першай Літаратурнай старонцы 29 чэрвеня 1958 г.:








— Ужо трэці год выдаецца «Ніва», ужо трэці год на яе старонках час ад часу з'яўляюцца вершы мясцовых аўтараў, выступаюць новыя імёны. Пераважна гэта маладыя, пачынаючыя паэты, творчая біяграфія якіх непарыўна звязана з «Нівай». Часам само з'яўленне «Нівы» ў больш чулых сэрцах выклікала хваляванне, якое вылівалася на паперы ў выглядзе вершаў. Не аднаму гэтыя першыя вершы і былі штуршком да спробы сваіх сіл на паэтычнай ніве. Гэтак было з Уладзімірам Гайдуком (...) і іншымі паэтамі. Але тыя, што і раней пісалі, толькі з выхадам «Нівы» пачалі сваёй творчасці прыдаваць больш сур'ёзнае значэнне. Так было з Андрэем Сошкай. Частка маладых аўтараў уключылася ў творчую працу пасля значнага перапынку, гэта было з Віктарам Шведам і Дзмітрыем Шатыловічам. Адгукнуліся і тыя, як Мікола Буцылін, якія яшчэ ў міжваенны перыяд шукалі ў паэзіі шчасця... (...) Бацькаўшчына, прырода, мова! Добра. Будзем пісаць. Але адкінем дэкларатыўнасць (...), выплывем з магічнага трохвугольніка на шырэйшыя воды».

Сярод удзельнікаў арганізацыйнага сходу, скліканага Георгіем Валкавыцкім, былі Уладзімір Гайдук, Янка Дубіцкі (Ян Чыквін), Янка Беразавец, Восіп Мялеша, Андрэй Беразавец, Дзмітрый Шатыловіч, Віктар Швед, Сакрат Яновіч, Яша Бурш, Алесь Свісёк (Аляксандр Батура), Мацей Канапацкі, Пятро Ластаўка, Францішак Берніковіч, Алесь Барскі (Аляксандр Баршчэўскі), Антось з Лепля (Антон Васілеўскі). Антон Васілеўскі народжаны ў 1891 годзе, роўна сто гадоў перад адной з сяброўак цяперашняй «Белавежы» — Кацярынай Сянкевіч.

На «Літаратурнай старонцы», якой выйдзе ў «Ніве» больш за чатырыста нумароў, будуць публікавацца вершы, проза, пераклады і літаратурная крытыка. Літаратурна-мастацкая група «Белавежа» стане Беларускім літаратурным аб'яднаннем «Белавежа», са сваім штогоднікам, а на старонках «Нівы» пасыплюцца зярняткі наступнага пакалення, маладзейшага ад самой «Нівы» і «Белавежы», а зараз і яшчэ наступнага, выхаванага на «Ніве».

Мае рацыю Галіна Тычка, называючы заснаванне 8 чэрвеня 1958 года ў Беластоку літаратурнага аб'яднання пры рэдакцыі штотыднёвіка беларусаў Польшчы „Ніва" гістарычнай падзеяй агульнанацыянальнай значнасці. У 1962 годзе аб'яднанне атрымала вельмі адпаведную, трапную назву „Белавежа", пад якой і ўвайшло ўжо ў гісторыю беларускай літаратуры. А гэтая рунь вырасла са старонак «Нівы», з палетка засеянага Георгіем Валкавыцкім, і закаласілася сотнямі загалоўкаў кніг.

Тэкст і фота **Міры ЛУКШЫ**

*(даклад быў прачытаны ў час юбілею 60-годдзя «Нівы», 26 лістапада 2016 г.)*

# ПРА ТРЫЧОЎКУ І АГОНЬ

**Час таму нейкі назад падаўся я быў у Кажаны, у тамашні храм, аднак удалося мне, як гэта гаворыцца, пацалаваць толькі клямку — з-за рамонту царквы. Прыйшлося пашыраць свае веды пра тамашняе наваколле, у тым ліку і пра той сакральны аб'ект, дзе зараз адбываюцца набажэнствы. Капліца тая знаходзіцца менш-больш у аднолькавай адлегласці ад некалькіх вёсак: ад Кажан, Заячкаў, Панькоў, Дарожак, Трычоўкі, Войшкаў — побач дарогі паміж дзвюма апошнімі вёскамі.**

Драўляная капліца была там узведзена ў 1880 годзе жыхаром Панькоў Феадосіем Зданучыкам, на месцы, дзе паводле легенды двум пастушкам паказалася на дрэве постаць Багародзіцы. У сонечнае надвор'е служба адпраўлялася навонкі капліцы, пад адмысловай паветкай, дабудаванай два гады таму. Сабралася можа з паўсоткі вернікаў, частка якіх стаяла навонкі агароджы. Большасць з іх прыехала на машынах, некалькі асоб на веласіпедах. Набажэнства пад адкрытым небам мае непаўторнае абаянне — у нерукатворным антуражы, дзе чалавек стаіць сапраўды без ніякай шапкі, да таго ж у засені дрэў — як у раю, як у дагістарычны час, у язычніцкі...

Мова пра язычніцкі час тут сама на месцы. Менавіта паблізу вёскі Заячкі знаходзіцца сярэднявечнае гарадзішча, пра якое археолагі мяркуюць, што было яно свайго роду фарпостам суражскага замка. А можа нават папярэднікам; можа тут, у Заячках, меў быць замак, але можа места не было надта адпаведнае і калі даўнія рыцары дабраліся да Суража, дык пакінулі Заячкі, гэтак жа як пазнейшыя манахі пакінулі Гарадок і перанесліся ў Супрасль...

І перад вёскай Кажаны, бадай як і перад Заячкамі, была бліснула светлая будучыня. У 1687 годзе кароль Ян III Сабескі даў Кажанам мястэчковую прывілею, дазваляючы арганізаваць штотыднёвыя, амаль нічым неабмежаваныя, кірмашы. Аднак і тут нешта не спрацавала і Кажаны не сталі не толькі горадам, не сталі нават мястэчкам, не здолелі прабіцца на раўню з суседнімі больш магутнымі Суражам і Заблудавам...

Паездка ў Кажанскі прыход мела ў мяне і дадатковую мэту. Менавіта на тэрыторыі прыхода ў апошнія дні мінулай вайны было здзейснена зверскае злачынства на мясцовым насельніцтве. Адбылося гэта на калёніі ў Трычоўцы. Перад набажэнствам спытаў я некаторых прыхаджанак, дзе знаходзіцца мемарыял, але яны не ведалі. Затое царкоўны староста растлумачыў мне як туды трапіць...

У час вайны нейкія людзі, магчыма што партызаны, забілі каля Цялушак нямецкага афіцэра, прывязалі труп да конскага сядла і пусцілі таго каня. За тое немцы зладзілі аблаву на цывільнае насельніцтва Цялушак, Канюк, Паўлаў і Рыбал. Спярша сагналі іх у стадолу ў Рыбалах, а пасля пагналі на калёнію за Трычоўкай, дзе схапілі і далучылі двух выпадковых жыхароў гэтай вёскі ды заперлі ўсіх у стадолу і падпалілі. Было гэта 26 ліпеня 1944 года, жывымі згарэлі дваццаць чатыры мужчыны: дзесяць з Паўлаў, шэсць з Канюк, чатыры з Рыбал, два з Цялушак і два з Трычоўкі...

Месца злачынства знаходзіцца каля чатырохсот метраў ад дарогі, што з Трычоўкі адыходзіць у бок Рэпнік, на калёніі побач дарогі, якая з'яўляецца прадаўжэннем трычоўскай вуліцы. Там абгароджаны металічнай агароджай помнік, пастаўлены ў 1965 годзе. Гэты аб'ект у межах панадворка, таксама абгароджанага. Па панадворку ў час майго наведвання бегалі памяркоўна злосныя сабакі; месца, значыць, надзейна ахоўваецца. А памяць пра гэтую жудасную падзею паволі бледне. Можа з-за таго, што здарылася гэта ў адносна аддаленым месцы, на прыватным панадворку, у некаторай аддаленасці ад родных мясцовасцей ахвяр...

Жорсткасць жа расправы пякельная. Ды і апошняя вайна пакінула па сабе шмат роўна сатанінскіх учынкаў. І ў гэтай масе паступовенька чэзнуць з памяці нават найбольш агідныя злачынствы, бо жыццё ўсё прыносіць новыя падзеі, якія даўніну спіхаюць ва ўсё глыбейшае забыццё...

Зводка Савецкага інфармацыйнага бюро ад 30 ліпеня 1944 года: „Южнее города Белосток наши войска овладели важным узлом шоссейных дорог городом и крупной железнодорожной станцией Бельск, а также с боями заняли более 60 других населённых пунктов, в числе которых крупные населённые пункты Рыболы, Срединская, Плютичи, Райск, Августово и железнодорожная станция Страбля...” З 26 ліпеня, значыць з дня злачынства, не хапіла чатырох дзён да вызвалення ад гітлераўцаў... Але хто ведае, як склаўся б лёс тых трычоўскіх пакутнікаў, бо ж і пасля гэтага вызвалення былі, для прыкладу, Залешаны...

Палілі людзей жывымі спакон вякоў. Быў гэта адзін з самых жорсткіх спосабаў знішчэння працўніка ды „звычайнага” пакарання. Жывымі палілі бунтаўнікоў супраць улад, адступнікаў ад пануючай рэлігіі, дээрціраў, падпальшчыкаў. Па прысудах іспанскай інквізіцыі было спалена жывымі некалькі дзясяткаў тысяч „грэшнікаў”. Столькі ж у агульным падліку было спалена еўрапейскіх „чараўніц”. У час грэцка-турэцкай вайны 1820-х гадоў абодва бакі спальвалі жывымі захопленых палонных. У XVII стагоддзі японцы палілі хрысціянскіх місіянераў. Паводле савецкіх крыніц у сакавіку 1943 года гітлераўцы спалілі жывымі амаль паўтары соткі жыхароў Хатыні на Міншчыне. 6 студзеня 1943 года гітлераўцы спалілі 261 жыхара палескай вёскі Тонеж у тамашняй царкве. 13 красавіка ў паўночнанямецкай мясцовасці Гардэлеген гітлераўцы спалілі ў пуні звыш тысячы прымусовых работнікаў. Восенню 1942 года ў Раве-Рускай гітлераўцы спалілі ўжывую амаль восем тысяч жыдоў; у недалёкім ад нас Ядвабным згарэла каля трохсот жыдоў. У ходзе Першай сусветнай вайны ў раёне горада Муш, што на захадзе ад вялікага возера Ван у Анатоліі, туркі спалілі ўжывую некалькі дзясяткаў тысяч армян. У верасні 1922 года туркі падпалілі грэчаскія і армянскія кварталы Смірны (сённяшняга Ізміра); у выніку згарэла жывымі некалькі дзясяткаў тысяч людзей. Гэтак было даўней, да часу Другой сусветнай вайны. Варта дадаць, што генацыд армянскага насельніцтва ў час Першай сусветнай вайны стаў свайго роду апраўданнем пазнейшага халакоста — Гітлер у 1939 годзе рытарычна спытаў: „А хто ж сёння ўспамінае пра знішчэнне армян?..” І варта яшчэ дадаць, што генацыд армянскага насельніцтва ў межах турэцкай дзяржавы лічыцца першым масавым генацыдам сучаснай эпохі...

23 чэрвеня 1944 года альянты ўпершыню прымянілі напалм у бітве за Марыянскія астравы. А пазней пайшло-паехала. 9 і 10 сакавіка 1945 года амерыканская авіяцыя скінула на Токіо запальныя бомбы, з напалмам; ад пажараў загінула тады каля васьмідзясяці тысяч чалавек — больш чым у выніку на некалькі месяцаў пазнейшай атамнай бамбёжкі Хірасімы з прымяненнем яшчэ магутнейшага тэрмічнага ўдару. У палове лютага таго ж года ў час бамбёжкі альянтамі Дрэздэна, таксама з прымяненнем напалма, загінула, у тым ліку і ад суцэльных пажараў, каля дваццаці пяці тысяч чалавек... Напалм масава прымяняўся амерыканцамі ў Карэі і В'етнаме. Напалм знайшоў прымяненне і ў менш вядомых войнах, у тым ліку на Блізкім Усходзе і ў Лацінскай Амерыцы...

Гэта найбольш вядомыя масавыя спальванні ўжывую. Да таго ж і менш вядомыя, і зусім невядомыя. І колькі згарэла ўжывую ўсіх з часоў Адама і Евы?.. Паводле папулярных уяўленняў у пякельным агні маюць гарэць толькі грэшнікі, як у Садоме і Гаморы: „Четвертый Ангел вылил чашу свою на солнце: и дано было ему жечь людей огнем.” (Апакаліпсіс, 16:8) А чалавек жа, як вядома, не бязгрэшны. За ўсю вядомую гісторыю ён вельмі настойліва прыдумліваў усялякія спосабы прымянення агню дзеля знішчэння сабе падобных...

Зараз у нашай краіне вельмі галосны лозунг аховы жыцця з самога яго зачацця. Гэты лозунг грунтуецца на пятай — паводле каталіцкай і лютаранскай рэдакцый — або на шостай — паводле праваслаўнай і кальвінскай рэдакцый — запаведзі Дэкалога. Да ўсяго гэтага тэолагі ў вельмі агульных разважаннях талкуюць, што паколькі жыццё гэта дар Божы, то чалавек не мае права замахвацца на гэты дар. Але ж чалавек можа выступіць ад Божага імя, як у выпадку згаданай раней інквізіцыі. Да таго ад гэтай запаведзі могуць быць выключэнні...

Вось перада мною падручнік рэлігіі, выдадзены ў Пецярбургу ў 1912 годзе, адобраны расійскім Свяцейшым Сінодам. Талкаванне там шостай запаведзі: „Впрочем, бывают случаи, когда убийство не поставляется в грех, например, когда преступника наказывают смертию по правосудию или когда убивают неприятеля на войне за Государя и Отечество.” Вось якую шырокую фортку маем дзеля абмінання ўсялякіх забарон: „за Государя и Отечество”. Тую фортку можна таксама арнаментаваць крыху інакш, па-варшаўску: „stanem wyższej konieczności”, як у выпадку Залешан ці Занёў...

Паводле нашай манатэістычнай Біблії, чалавека стварыў адзіны Бог, пасяліў яго ў Эдэме, але празорліва забараніў яму карыстацца пладамі з дрэва пазнання дабра і зла. Гэты першы чалавек быў, здаецца, так набожны, як і сённяшнія героі масавага ўяўлення; значыць — не надта; і да Божай запаведзі аднёсся даволі дапытліва. Паводле ж старажытнагрэчаскай міфалогіі, чалавека зляпіў з гліны Праметэй і гэтаму стварэнню рассакрэціў тайну агню. За гэта Зеўс вельмі разгняваўся на Праметэя і прыкаваў да скалы Каўказа на вечныя пакуты. Жорсткае было гэта пакаранне, але масціты Зеўс лічыў, відаць, чалавека шкодным пустазеллем і ведаў напалёт, чаго можна спадзявацца ад злепленага з не надта чыстай зямной матэрыі стварэння. І шматлікія індывіды гэтай пароды здаюцца апраўдваць насцярожанасць мудрага Зеўса.

Прыгнятальна было б завяршаць тэкст сумным акцэнтам, таму хочацца прывесці крыху праметэйскага аптымізму, узятага са Слоўніка старапольскай мовы. Агнём называем не толькі праяўленне фізічнага спальвання. Агнём называем і праяўленне ўсялякай іншай высокай тэмпературы. Напрыклад, эмацыянальнай: „Nigdy, nigdy prawdziwa miłość nie umiera, lecz i w ogień włożona do kości przywiera”. Фізіялагічнай, з верша Мікалая Рэя: „Dziewka prała na lodu, więc czerwone nogi; uźrzał jeden, rzekł jej: tu ogień w rzyci srogi”. Гаючай: „Skora rżanego chleba upieczona u ognia iako grzanka a potym w oczcie zmaczona a na żołądek przyłożona sthanowi wraczanie”; апошняе слова абазначае ўрачаванне. І, нарэшце, духоўнай, з прапаведзі Пятра Скаргі: „Niech w tym kościele gore ustawiczny ogień żądz niebieskich, do którego drew słowa Bożego przykładajmy”. Толькі неба высока, а зямныя пажадлівасці — што руку працягнуць, усё спакушаюць з яблыні пазнання дабра і зла...



Капліца між Войшкамі і Трычоўкай




Помнік у Трычоўцы

**Тэкст і фота Аляксандра ВЯРБІЦКАГА**



Бельскі беларускі ліцэй

# Пачаткі ліцэя. Яраслаў Кастыцэвіч (ч.5)

Не менш грозным настаўнікам быў і Ільля Захаравіч Бэрнат, з якім — як помніце — меў я дачыненне ад першага дня майго прабывання ў Ліцэі. Ён таксама быў ужо немаладым чалавекам і старой даты педагогам. Дасюль прамільгаюць перада мною сцэнкі, звязаныя з ім. Званок, павольным крокам уваходзіць Ільля Захаравіч са сваім неразлучным партфельчыкам у наш клас. Мы ўсе, як па камандзе, падрываемся са сваіх месцаў. На паўдарозе ад дзвярэй да стала Ільля Захаравіч раптам затрымліваецца і грозна пытае: «А гэта што такое?!» І мы ўжо ведаем, што гэта напэўна нейкая нявінная паперка ці семечка ляжыць на падлозе і што пакуль дзяжурныя не падымуць яе і не занясуць куды трэба, настаўнік не рушыцца з месца. Толькі пасля гэтага Ільля Захаравіч сядзе пры стале і распачне ўрок беларускай мовы...

Навука і выхаванне нашы ўсё ж такі ішлі сваёю дарогаю, часам зусім гладка, а часам з пэўнымі цяжкасцямі. За дрэнныя ўчынкі дырэктар мог пажурыць і пакараць, а за добрыя — пахваліць, бо хваліць ён таксама ўмеў і любіў.

Як станавілася яўным, напрыклад, нейкае дробнае вучнёўскае хуліганства, вучнёўская выпіўка ці тое, што хтосьці ўхітрыўся паставіць сам сабе ацэнку ў дзённіку, у школе было проста землетрасенне. Наш дырэктар проста грымеў, выходзіў з сябе, сам праводзіў следства, на якое клікаў не толькі родных бацькоў, але часамі і хросных бацькоў віноўнікаў. Так балюча здымалі з нас грубы і цвёрды слой шурпатасці і непакорнасці. Канешне, такія суровыя адносіны дырэктара былі ў асноўным да вучняў пачатковых класаў Ліцэя. І не дзіва, што па аколіцы проста кружылі легенды пра выхаваўчыя метады нашага дырэктара...

Потым мы зразумелі, што Яраслаў Васільевіч з'яўляецца не толькі суровым дырэктарам, але і, можна сказаць, клапатлівым нашым бацькам. Усе яго дырэктарскія дзеянні былі падпарадкаваны аднаму — зрабіць з нас добрых, разумных, адукаваных, культурных людзей і, канешне, свядомых беларусаў. Такімі былі і іншыя нашы настаўнікі.

На штодзённых школьных «апэлях», аб якіх я ўжо ўспамінаў, дырэктар не толькі крытыкаваў тых, хто заслугоўваў на крытыку. Ён часта хваліў таксама, і любіў хваліць тых, хто заслугоўваў пахвалы. З розных нагод дырэкцыя атрымлівала лісты і віншавальныя паштоўкі ад сваіх абітурыентаў, многія з якіх сталі ўжо студэнтамі розных сваіх ці загранічных вышэйшых навучальных установаў, ці ўжо працавалі на салідных пасадах. Дырэктар чытаў нам адпаведныя фрагменты гэтых лістоў і паштовак, і расказваў пра іх аўтараў, часта пра іх клопаты і няўдачы ў школьныя гады. А цяпер вось кім сталі яны! Ён дасканала ведаў, якім моцным стымулятарам могуць паслужыць яны нам, маладым. І сапраўды, слухаючы іх, у нашых юнацкіх моцна прыстрыжаных галовах пачыналі мроіцца добрыя думкі: «Чорт вазьмі, а чаму б і мне не пастарацца стаць такім?! А тады ўжо з моднай прычоскай і з «індэксам» у кішэні наведаць школу. Няхай парадуюцца дырэктар і настаўнікі, што іх праца не прапала марна...».

З танцавальным калектывам, хорам з багатым беларускім рэпертуарам і сваім духавым аркестрам мы часта выступалі ў Бельску і цэлай нашай бліжэйшай і далейшай аколіцы. Нашы выступленні карысталіся вялікай папулярнасцю і славілі наш Беларускі ліцэй і нашу беларускую культуру. І нас, і нашых гледачоў і слухачоў наглядна пераконвалі яны, што мы і наша беларуская мова і культура не горшыя ад культур іншых народаў.

Той час быў моцна аптымістычным часам. Ад дырэктара школы проста адміністрацыйна патрабавалася выхоўваць маладое пакаленне ў атэістычным духу. Яраслаў Васільевіч і ў гэтым сэнсе не зблазнаваўся ніколі, як многія іншыя нашы дзеячы. Мы ніколі не пачулі ад яго антырэлігійных выказванняў і ні перад кім не скрываў ён таго, што з'яўляецца моцна веруючым і праваслаўным.

Бадай не было такога Яна (парафіяльнае свята ў нашым Пасынскім прыходзе, за якіх дзевяць кіламетраў ад Бельска), каб Я. Кастыцэвіч на сваім старэнькім ровары не прыехаў туды і не памаліўся ў нашай царкве ды не сустрэўся з многімі сваімі знаёмымі каля царквы. І гэта быў найлепшы прыклад нам, маладым. Я ганаруся тым, што закончыў Бельскі беларускі ліцэй і маім дырэктарам быў Яраслаў Васільевіч Кастыцэвіч.

Беларускі ліцэй пад кіраўніцтвам Я. Кастыцэвіча быў своеасаблівай школай са своеасаблівай дамашняй, свойскай атмасферай у ёй. У сценах яе гучала як польская мова, так і свабодна гучалі ўсе мясцовыя беларускія гаворкі. Але ў Ліцэі пазнавалі мы і беларускую літаратурную мову, гісторыю, моцна забытаную, але цікавую і багатую мінуўшчыну нашага Падляшша.

Наш дырэктар знаходзіў час даслоўна на ўсё: выступіць на лінейцы, прайсціся па класах у час перапынку, пабыць на ўроках і на рэпетыцыях, сачыць за парадкам і дысцыплінай у школе, наглядаць за нашымі прычоскамі і гігіенай, накрыць прагульшчыкаў і разявак, пахваліць заслужыўшых пахвал і пажурыць правінуўшыхся, паўдзельнічаць на школьных і гарадскіх імпрэзах...

Дзень за днём, тыдзень за тыднем, ме-

працяг ☞ 11




Усё цячэ і ўсё змяняецца. Тое ж адбываецца і з сайтамі. Некаторыя з іх знікаюць, а некаторыя, аздобленыя новымі ўпрыгожаннямі і функцыямі, працягваюць сваё існаванне, даносячы да карыстальніка тую інфармацыю, якую лічаць патрэбнай іх уладальнікі. Але часам уладальнікі сайта прыходзяць да высновы, што ранейшы іх сайт з яго назвай і выяўленнем ужо ніяк не адпавядае ўласна іх запатрабаванасці. І тады пачынаюцца пошукі нечага іншага, магчыма зусім адрознага ад папярэдняй версіі. Менавіта гэта адбылося з адным гродзенскім сайтам, што меў назву „Твой стыль" і пра які „Ніва" пісала ў нумары ад 12 жніўня 2007 года.

Нагодай, з-за якой варта ўспомніць пра даволі цікавы сайт бліжэйшага да Беластока буйнога беларускага горада, стаў рэбрэндынг, рэстайлінг і рэнэймінг „Твайго стылю". Ад кастрычніка гэтага года даная інтэрнэт-старонка мае назву Hrodna.life і кардынальна адрозніваецца ад свайго продка абсалютна ўсім, у тым ліку ўзрослай якасцю апублікаванай інфармацыі.

„Hrodna.life — выданне пра жыццё горада і жыццё ў горадзе. Мы трымаем руку на пульсе Гродна і кожны дзень пішам пра важныя гарадскія падзеі ды тых, хто ў гэтым горадзе жыве. Мы пішам пра дасягненні і праблемы Гродна і гродзенцаў, разважаем, як зрабіць горад лепшым, публікуем унікальныя гістарычныя матэрыялы, якіх няма больш ні ў кагo. На Hrodna.life мы збіраем свежыя навіны гарадскога жыцця толькі з праверaных крыніц ды публікуем уласныя аўтарскія артыкулы, рэпартажы, інтэрв'ю, агляды і г.д. У 2007-2016 гадах мы працавалі пад брэндам «Твой стыль», — распавядаецца ў рубрыцы „Пра нас" новага гродзенскага сайта. Паколькі рэдакцыя, па ўсім відаць, засталася тая ж, што была папярэднія дзевяць гадоў, то яна запрашае зазірнуць на ўсё яшчэ існы архіў „Твайго стылю", „каб знайсці мноства тэкстаў, што і сёння не страцілі актуальнасці".

„Пад брэндам „Твой стыль" мы дасягнулі максімуму — сталі цалкам прафесійным мясцовым СМІ, які многія гарадскія тэмы падымаў першым або распрацоўваў найбольш глыбока. Мы сталі крыніцай інфармацыі не толькі для гродзенцаў, але і для многіх галоўных інтэрнэт-медыяў краіны. Мы былі на месцы, калі адкрываліся знакавыя для горада праекты, сачылі за ўсімі сферамі гарадскога жыцця, рабілі ўнікальныя для горада мультымедыйныя матэрыялы, з намі працавалі лепшыя аўтары і фатографы Гродна. І мы былі вельмі дэмакратычныя — гутарылі і з бамжамі, і з чыноўнікамі, і з дыпламатамі звышдзяржаў. На Hrodna.life будзе яшчэ круцей", — сцвярджаецца ў апошнім паведамленні на старым сайце.

Нягледзячы на тое, што „Твой стыль" і Hrodna.life знешне маюць пэўнае падабенства, адчуваецца, што другая версія раскрывае пра гродзенскае жыццё зроблена, сапраўды, больш прафесійна. Галоўная старонка сайта ажно зіхаціць анонсамі паведамленняў пра Гродна і гродзенцаў. Практычна кожная інфармацыя аздоблена фотаздымкамі ці відэасюжэтам.

Таксама варта адзначыць больш абгрунтаванае дзяленне на рубрыкі, хоць колькасць іх засталася амаль той жа, што была на „Тваім стылі". Сярод іх для жыхароў Падляшша асабліва цікавай будзе рубрыка „Навіны з мяжы".

❖ **Уладзімір ЛАПЦЭВІЧ**

Дата з Календара

Руплівы даследнік айчыннай літаратуры



## 85 гадоў з дня нараджэння Сцяпана Александровіча

Беларускі літаратуразнавец, крытык, празаік Сцяпан Александровіч нарадзіўся 15 снежня 1921 г. у гарадскім пасёлку Капыль Мінскай вобласці. Паходзіў з сям'і рабочага-гарбара. Вучыўся ў сярэдняй школе ў Капылі, якую скончыў у 1939 г. Пасля гэтага паступіў на філфак Беларускага дзяржаўнага ўніверсітэта. Калі прыйшла Другая сусветная вайна, прызваны ў Чырвоную Армію. Браў удзел у баях у Іране, у Керчанска-Феадасійскай аперацыі. У траўні 1942 г. цяжка паранены, праз тыдзень узяты ў палон. Уцёк з палону з Крывога Рогу (на тэрыторыі Украіны) у жніўні 1942 г. і вярнуўся на радзіму. У 1943 г. партызаніў сувязным у брыгадзе імя Чапаева на Капыльшчыне.

У 1944-1953 гг. выкладаў беларускую мову і літаратуру спярша ў Беніцкай сямігадовай школе Маладзечанскага раёна, потым у Навагельненскай сярэдняй школе Дзятлаўскага раёна і ў Навагрудку. Адначасна вучыўся завочна на філфаку і ў 1950 г. скончыў універсітэт. У 1953-1958 гг. выкладаў у Мінскім бібліятэчным тэхнікуме. У 1959-1963 гг. — навуковы супрацоўнік Інстытута літаратуры імя Янкі Купалы АН БССР і Музея Якуба Коласа. З 1963 г. — дацэнт, а з 1974 г. — прафесар БДУ. Узнагароджаны ордэнамі і медалямі.

Першыя краязнаўчыя нарысы надрукаваў у 1946 г. у газеце „Літаратура і мастацтва". Даследаваў гісторыю беларускай літаратуры XIX—XX стагоддзяў, развіццё нацыянальнага кнігадрукавання і перыядычнага друку, літаратурныя сувязі, у тым ліку беларуска-ўкраінскія. Александровіч надаваў значную ролю вывучэнню творчасці Тараса Шаўчэнкі. Яму належаць артыкулы „Тарас Шаўчэнка і Янка Купала", „Тарас Шаўчэнка і Беларусь", „Любоў Беларусі" і іншыя. Даследаваў гісторыю беларускай літаратуры ў міжславянскім беларуска-балтыйскім і агульнаеўрапейскім гістарычна-культурным кантэксце. У працы „Пуцявіны роднага слова" (1971) прааналізаваў працэс станаўлення новай беларускай літаратуры ў 2-й палове XIX — пачатку XX ст. паралельна з зараджэннем і развіццём нацыянальнага кнігадрукавання і перыёдыкі. Узнавіў цэласную карціну беларускіх перыядычных выданняў і выдавецкіх суполак, таварыстваў, паказаў іх ролю ў ідэйна-мастацкім і жанравым росце айчыннай славеснасці, сталенні нацыянальнага тэатра, музыкі, журналістыкі, у паглыбленым вывучэнні фальклору, этнаграфіі і ўсёй культуры Беларусі. У кнізе „Вальнадумца з-пад Нясвіжа Аляксандр Незабытоўскі" раскрыў малавядомыя падзеі з гісторыі беларуска-польскіх літаратурных і грамадска-палітычных сувязей у 1840-я гады. Адмысловыя распрацоўкі прысвяціў жыццю і дзейнасці Францішка Скарыны, гісторыі народніцкага часопіса „Гоман", газетам „Наша доля" і „Наша ніва", сувязям Янкі Купалы з польскай літаратурай. Вывучаў літаратурна-гістарычную біяграфію Цішкі Гартнага. Для створаных Александровічам літаратурных партрэтаў пісьменнікаў Паўлюка Багрыма, Франца Савіча, Францішка Багушэвіча, Каруся Каганца, Змітрака Бядулі, Якуба Коласа, Янкі Купалы, Цёткі, Кузьмы Чорнага і іншых уласцівы глыбокі гістарызм. Падрыхтаваў таксама да выдання творчую спадчыну Багушэвіча, Каганца, Цёткі, Альберта Паўловіча. Адзін з аўтараў „Гісторыі беларускай савецкай літаратуры" і складальнікаў хрэстаматый „Беларуская літаратура XIX стагоддзя", „Беларуская літаратура XIX — пачатку XX ст.: Хрэстаматыя крытычных матэрыялаў", іншых прац.

Памёр Сцяпан Александровіч 1 траўня 1986 г. у Мінску. Пахаваны на Паўночных могілках сталіцы.

❖ **Падрыхтаваў Уладзімір ХІЛЬМАНОВІЧ**

сяц за месяцам ішоў час, інтэнсіўна прадаўжаліся нашы вучоба і выхаванне. І ў 1953 годзе мы, дзякуй Богу і Ліцэю, закончылі свой восьмы клас, а нашы ліцэйскія абітурыенты закончылі адзінаццаты клас і, здаўшы матуральныя экзамены, 38 чалавек атрымалі атэстат сталасці. У чэрвені 1954 года мы закончылі дзявяты клас, а 37 нашых абітурыентаў атрымалі атэстат сталасці.

А ў старэйшых класах не было ўжо праблем ні з нашай дысцыплінай, ні з прычоскамі, бо дырэкцыя і настаўнікі рабіліся лагаднейшымі для нас, а мы ўжо дасканала ведалі, што нам можна, а чаго — не. Нарэшце і мы зразумелі, што дырэктар наш добры, справядлівы і дбаючы аб нас чалавек. А і Ілья Захаравіч таксама не вораг, а наш прыхільнік.

Асаблівай увагай і павагай карысталіся ў нашага дырэктара вучні апошняга, адзінаццатага класа. Пачынаючы ўжо з дзясятага класа Яраслаў Кастыцэвіч праводзіў з намі і нашымі бацькамі гутаркі на тэму нашай далейшай жыццёвай дарогі. Дараджваў куды варта кіравацца пасля заканчэння Ліцэя. І такія гутаркі нам былі вельмі патрэбныя, бо ані ў нас, ані ў нашых бацькоў дастатковай арыентацыі ў гэтай справе не было.

Калі той, хто на яго думку павінен вучыцца, не падаваў дакументаў у вышэйшую навучальную ўстанову, наш дырэктар сам мог прыехаць да яго дадому. З такой мэтай прыязджаў і да мяне на вёску. Прывёз патрэбныя паперы, казаў запоўніць іх, сам забраў і школа адправіла куды трэба...

Калі наведвалі школу выпускнікі, якія закончылі наш Ліцэй, дырэктар вельмі ахвотна прымаў іх, абводзіў па школе, расказваў пра актуальныя справы школы і распытваў пра іх справы...

*(працяг будзе)*

**Васіль САКОЎСКІ**



# Кажухі на выставе ў галерэі



4 снежня гэтага года ў Галерэі імя Тамары Саланевіч у Нараўцы Гайнаўскага павета адкрылі выстаўку пад загалоўкам "Кажух даўным-даўно і сёння". На яе сабралі ў нараўчанскіх вёсках, між іншым, у Грушках, Лешуках, Новым Ляўкове, Старым Ляўкове, Міхнаўцы, Плянце і ў Семяноўцы — 26 кажухоў. Такую цёплую вопратку на зіму шылі кажушнікі ў Гарадку, Гайнаўцы, Нараўцы, Орлі і Трасцянцы.

Падчас адкрыцця выстаўкі пра кажух цікава распавяла нараўчанская бібліятэкарка Анна Стульгіс. Яна падзялілася сваімі ведамі пра падрыхтоўку авечых шкур перад тым, як іх мелі сшываць, як іх апрацоўвалі і на канец фарбавалі або і не. А шылі іх на розны фасон. Іх яшчэ і вышывалі каляровымі ніткамі. Калі верыць старэйшым жыхарам, то яны расказваюць, што калісьці зімы былі марозныя-марозныя ды снежныя і без кажуха немагчыма было абысціся. Зараз іх можна паглядзець на адмысловай выстаўцы ў гадзінах працы галерэі.

Хто прыйшоў на адкрыццё выстаўкі (як аказалася, ахвотных прыйсці ў галерэю з гэтай нагоды было шмат), таго арганізатары пачаставалі кавай, гарбатай і салодкім піражным. Хаця ў памяшканні было даволі многа кажухоў, але яны былі на вешалках, ад іх не ішло цяпло, а на дварэ ў той дзень было холадна. Вядома, снежань. Цёплы напітак вельмі прыгадзіўся.

**Тэкст і фота Янкі ЦЕЛУШЭЦКАГА**



## ЗАПРАШЭННЕ

Аб'яднанне АБ-БА сардэчна запрашае на Дыскусійны клуб АБ-БЫ

**Пагаворым пра тое, як іспанка стала беларускай**

**і сустрэчу з Анхэляй Эсьпіноса – паэткай, блогеркай, аніматаркай беларускай культуры.**

15.12.2016 (чацьвер) 17.30

*Склеп з культурай Аб'яднання АБ-БА*
*вул.Чэнстахоўская 6а, Беласток.*

# «Сярожа» — фільм года Тэлеканала «Белсат»

Фільм Юрыя Каліны «Сярожа» я меў магчымасць паглядзець на сёлетняй прэзентацыі Міжнароднага фестывалю шматлікіх культур і народаў «З вясковага панадворка» ў Чаромсе. З рэжысёрам фільма мы правялі сардэчную размову. Копію фільма я атрымаў ад прыяцеля ў падарунку. Яшчэ раз за гэта яму шчырае дзякуй! Варта адзначыць, што публіка ў знак прызнання (пры запоўненай зале) адбарыла Юрыя Каліну бурнымі воплескамі. А гледачы былі з усяе Польшчы і з-за мяжы. Фільм, значыцца, спадабаўся. Не менш прыемнай весткай няхай будзе факт, што сёлета «Сярожа» Юрыя Каліны быў вылучаны фільмам года Тэлебачаннем «Белсат». Станоўчае гэта вылучэнне рэжысёру. І пры гэтай нагодзе хачу павіншаваць рэжысёра з узнагародай і пажадаць яму далейшых поспехаў і плённай творчай працы. УСЯГО НАЙЛЕПШАГА!

**Уладзімір СІДАРУК**

# Адгаданка

**Шыфраграма**

Літары адгаданых слоў, перанесеныя згодна з іх парадкавымі нумарамі ў клеткі роспісу, складуць рашэнне — беларускую пагаворку.

1. цёплыя краіны, куды птушкі лятаюць зімаваць = 3 _ 4 _ 13 _ 12 _ 15 _;
2. выраб з узорыстай тканіны, якім усцілаюць падлогу = 18 _ 19 _ 16 _ 17 _ 26 _;
3. жонка Адама = 2 _ 7 _ 8 _;
4. адмысловы сноп саломы для страхі = 22 _ 23 _ 24 _ 25 _;
5. егіпецкая рака = 1 _ 6 _ 5 _;
6. прычаліў да Арарата = 31 _ 27 _ 9 _;
7. доля суўладальніка ў агульнай справе = 20 _ 21 _ 30 _;
8. зморанасць ад цяжкай працы = 10 _ 11 _ 14 _ 33 _ 34 _;
9. не сон = 32 _ 28 _ 29 _.

(ш)

| | | | | | | | | | | |
|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|---|
| | | 1 | 2 | | | | | | | |
| | | | | 3 | 4 | 5 | 6 | 7 | 8 | 9 |
| 10 | 11 | 12 | 13 | 14 | 15 | | 16 | 17 | 18 | 19 |
| | | | | | 20 | 21 | 22 | 23 | 24 | 25 |
| | 26 | 27 | 28 | 29 | 30 | | 31 | 32 | 33 | 34 |

Сярод чытачоў, якія на працягу месяца дашлюць у рэдакцыю правільныя адказы, будуць разыграны кніжныя ўзнагароды.

**Адказ на адгаданку з 48 нумара**

Баравік, апора, падарожнік, ям, Сулавесі, узор, фараон, слова, ветэран.

Рашэнне: **Барада па пояс, а розуму ні на волас.**

Кніжную ўзнагароду высылаем **Лявону Федаруку** з Рыбал.

# 18.12 — 24.12

**(22.03. — 20.04.)** Твае дасягненні будуць трывалыя і прынясуць прыбытак. Можаш пазнаёміцца з кімсьці вартасным на імпрэзе сарганізаванай сябрамі. Можаш атрымаць цікавы падарунак або прапанову пераходу на добрую працу ў іншую фірму. 18-22.12. хтосьці схоча паставіць перад табою лішне высокія патрабаванні. 24.12. пазнаёмішся з кімсьці з адкрытай галавой і шырокімі гарызонтамі.

**(21.04. — 21.05.)** 18.12. можаш непатрэбна страціць безвынікова шмат энергіі. 19-21.12. сустрэнеш аднамысьнікаў, якія гатовыя будуць цябе падтрымліваць. Хаця пасля 19.12. твае справы могуць пачаць валачыцца і крыху ўскладняцца. Але быццам бы нецікавая прапанова можа аказацца цудоўным прэзентам ад лёсу! Прымай лякарствы ў падтрымку пячонкі.

**(22.05. — 22.06.)** Хтось злосны схоча 18-21.12. папсаваць табе настрой. Але з 23.12. можаш разлічваць на прыліў гумару і творчай вены. Да 23.12. пераафармляй справы і найлепш выключ тэлефон! Не бяры нічога ў пазыку. Апранайся цёпла. Падлячы зубы.

**(23.06. — 23.07.)** Ад 19.12. трэба будзе адмовіцца табе ад некаторых планаў і абяцанняў. Марнавата з фліртамі, але шыкуецца табе скок у кар'еры! Марс спрые! Не бяры выхадных на працы — бяры заказы. З 21.12. будзеш адчуваць сябе добра пры баку каханай асобы. 22.12. узбагаціш сваю калекцыю. Калі шукаеш працу, шлі свае Сі Ві аж да Новага года!

**(24.07. — 23.08.)** Сімпатыя, прызнанне. Спрыянне ў разгадванні сакрэтаў і гаспадаранні грашыма. Кампанейскае жыццё будзе круціцца вакол тваёй асобы. З 23.12. (да 28.12.) пільнуйся — не абяцай нічога, чаго не здолееш рэалізаваць. Заданне, якое атрымаеш 19-23.12., прынясе вельмі вялікі прыбытак, хаця можа ўскладніць планы твайго і сямейнага адпачынку. Беспрацоўныя Львы возьмуцца за работу, хай і фізічную. Добры час на інвеставанне грошай.

**(24.08. — 23.09.)** Дзякуючы разумнай тактыцы і цярплівасці кончыш гэты год з поспехам. Станеш таксама чыімсьці дабрадзеем. 18-20.12. у парах, якія пераходзяць крызіс, пара на рашэнні. Калі ты нарадзіўся ў апошнія дні знака, можаш сустрэцца з былой каханай асобай, але невядома, ці яна змянілася (хаця так кажа). 18-19.12. можаш добра інвеставаць. Пры нервах не вырашай важнага.

**(24.09. — 23.10.)** Шчаслівыя і трапныя рашэнні, што можа выклікаць зайздрасць. Асабліва на працы, дзе хтосьці схоча прысабечыць твае ідэі і праекты. Калі шукаеш працы, пакажыся ў фірме асабіста. Разглядай дакладна кожную залатоўку. Схадзі да лекара праверыць гарманальную гаспадарку свайго арганізма.

**(24.10. — 22.11.)** 19-21.12. аформіш усялякія справы ва ўстановах і банках, дзякуючы прыязнай атмасферы. Хаця 19.12. можаш адчуць сваю беспамылковасць, што можа аказацца ілюзорным. Кожны твой дзень цяпер гэта захапляючы выклік! Шыкуецца гарачая любоўная прыгода, але неабавязкова стабільная і трывалая. Варта кудысьці з'ездзіць! Але прытрапіцца можа вельмі карысны заказ, дык закочвай рукавы.

**(23.11. — 22.12.)** Вельмі добра ва ўсіх справах перш за ўсё да 20.12. Здзейсніцца твая мара пра багацце і каханне. Хаця хатнія... не будуць смяяцца з тваіх жартаў. Ну, можа малодшыя цябе зразумеюць. Стралец з трэцяй дэкады — не адмаўляйся ад саперніцтва і не дай сабою кіраваць, асабліва калі табе 50+.

**(23.12. — 20.01.)** З 19.12. можаш быцьператомлены. Да 21.12. сядзі яшчэ ціха, не высоўвайся. 18-20.12. пераканаешся, ці твае планы маюць рэальныя шанцы, калі не — без цяжкасці зменіш іх і складзеш новыя. Казярогі з другой дэкады цяпер могуць вырашыць ключавыя справы ў сваёй кар'еры. Ад 22.12. аформіш штосьці, да чаго здаўна збіраеш свае сілы. Будуць падставы да радасці! Адна быццам бы выпадковая размова можа мець нечаканы працяг. Выхадныя можаш правесці неабавязкова сярод радні.

**(21.01. — 19.02.)** 18.12. магчымая спрэчка ў сям'і, якая папсуе табе настрой. З 23.12. палепшацца адносіны з блізкімі, з партнёрам — ідылія. Але не спяшайся і не вырашай бяздумна важнага. Будзеш разумны і абачлівы, не вер плёткам. Змяні план актыўнасці, адпачывай.

**(20.02. — 21.03.)** Да 18.12. ты слабейшы, але пасля дастанеш аграмадны прыліў энергіі! Не спяшайся, цешся хвілінай і блізкасцю, няхай цябе ашчасліўляюць іншыя. Калі будзеш штосьці рабіць, дапільнуй усяго сам, каб не дзяліцца прыбыткам. Асцярожна выдавай грошы. З усім, што цяжкае, дасі рады з 22.12 (да 26.12.).

**Агата АРЛЯНСКАЯ**

Ніва
ТЫДНЁВІК БЕЛАРУСАЎ У ПОЛЬШЧЫ
PL ISSN 0546-1960
NR INDEKSU 366714

**Выдавец**: Праграмная рада тыднёвіка „Ніва".
**Старшыня**: Яўген Вапа.
**Адрас рэдакцыі:** 15-959 Białystok 2, ul. Zamenhofa 27, skr. poczt. 84.
**Тэл./факс:** (+48 85) 743 50 22.
**Internet**: *http://niva.bialystok.pl/*
**E-mail**: *redakcja@niva.bialystok.pl*
***Zrealizowano dzięki dotacji Ministra Spraw Wewnętrznych i Administracji.***
**Галоўны рэдактар:** Яўген Вапа.
**Намеснік гал. рэдактара:** Віталь Луба.
**Тэхнічны рэдактар:** Адам Паўлоўскі.
**Рэдактар „Зоркі":** Ганна Кандрацюк-Свярубская.
**Публіцысты:** Мікола Ваўранюк, Аляксандр Вярбіцкі, Ганна Кандрацюк-Свярубская, Уршуля Шубзда, Міраслава Лукша, Іаанна Чабан, Аляксей Мароз, Віктар Сазонаў, Уладзімір Хільмановіч, Юрка Ляшчынскі, Янка Целушэцкі.
**Канцылярыя:** Галіна Рамашка.
**Друкарня**: „Orthdruk", Białystok.
Tekstów nie zamówionych redakcja nie zwraca. Zastrzega sobie również prawo skracania i opracowania redakcyjnego tekstów nie zamówionych. Za treść ogłoszeń redakcja nie ponosi odpowiedzialności.
**Sprzedaż egzemplarzową „Niwy" prowadzą:** kioski i punkty sprzedaży „RUCH" na terenie woj. podlaskiego oraz w Warszawie (odbiór należy zgłosić u sprzedawcy wybranego kiosku lub punktu sprzedaży „RUCH"), placówki pocztowe i listonosze w woj. podlaskim, kioski i punkty sprzedaży „KOLPORTERA" oraz „GARMOND PRESS", siedziba redakcji „Niwy".
**Prenumerata krajowa**
„POCZTA POLSKA", „KOLPORTER", „RUCH" — kwartalna 32,50 zł., półroczna 65 zł., roczna 130 zł.
Redakcja „Niwy" — kwartalna 50 zł., półroczna 100 zł., roczna 200 zł.
Wpłaty przyjmują urzędy pocztowe na terenie województwa podlaskiego oraz oddziały „KOLPORTER" na terenie całego kraju.
Zamówienia na prenumeratę realizowaną przez RUCH S.A. można składać bezpośrednio na stronie www.prenumerata.ruch.com.pl
Ewentualne pytania prosimy kierować na adres e-mail: prenumerata@ruch.com.pl lub kontaktując się z Telefonicznym Biurem Obsługi Klienta pod numerem: 801 800 803 lub 22 717 59 59 – czynne w godzinach $7^{00}$ – $18^{00}$.

**Wpłaty na wysyłkę z redakcji przyjmuje:**
**Rada Programowa Tygodnika „Niwa",**
BANK PEKAO S.A. O/Białystok
38 1240 5211 1111 0000 4929 0945

**Nakład:** 1 300 egz.

# У палескай глыбінцы (65)

Ядоўга намаўляла і прыгожа прасіла, каб камандзір Уладзімір Назарчук дазволіў зрабіць здымак. Здарылася штосьці дзівоснае — быццам тэлепартацыя пад ваенны Данецк. Здымак меў даказаць праўдзівасць здарэння, у якое мне самой цяжка было паверыць, асабліва калі ўзяць пад увагу чароўныя акалічнасці сустрэчы. Невір пакінула я з пэўнай палёгкай. Сяло, якое налічвае паўтысячы жыхароў, хоць у апошнім часе спалучанае са светам, далей здавалася ў ментальным сэнсе архаічнай і недаступнай выспай. Усе гэтыя чары і наведы, хоць пададзены з дозай крытыцызму, наклікалі спалох і належную павагу. Падобны настрой унушала навакольная прырода. Хапіла выйсці з двара, каб загубіцца ў джунглях трыснягу і дзікага вербалозу, над якім уздымаліся хмары крыважэрнай мошкі і назойлівых аваднёў. Я шчыра спачувала ўсім захопнікам і непажаданым госцям, якія апынуліся ў гэтым толькі фармальна даступным анклаве. У сутыкненні з таемнай зброяй, якой карысталіся мясцовыя жанчынкі, уся тэхніка і ваенныя стратэгі гублялі вастрыню. Не дарма ў наваколлі слова *нэвірка* гучала як сінонім шаптухі і таленавітай чарадзейкі. Карацей, ад пачутага дымела галава і ахінала трывога. Усё, што здарылася пазней па дарозе, здавалася не да канца рэальным.



Уладзімір Назарчук з сынам Арцёмам

* * *

З Невіра патрапіла я ў *Гоўркі*, афіцыйна перайменаваныя на Гіркі. Падвёз мяне на аўтобусе хлапец падобны на паэта Анатоля Сыса. Мужык горача намаўляў наведаць яго хутар сярод прыпрыпяцкіх балот, дзе калісь знаходзіўся вадзяны млын. Я аднак трымалася абранай дарогі, а гэта значыла, што чарговы адрэзак лясной дарогі, прыйдзецца адолець аўтаспынам або на сваіх нагах. Стройны шафёр кінуў на развітанне залатую ўсмешку і, як добры дзядзька, параіў не чакаць у канцы сяла пры адной хаце.

— Бо там такая сямейка, што *не ўсе дома*, — падказаў. — Яны могуць зругаць непрыстойнымі словамі, прыдзірацца ці абкідаць камянямі. — І быццам на апраўданне, дадаў: — Кажуць, сяло дурня — гэта не сяло!

Апошняя падказка была не толькі цэннай у фізічным сэнсе. Яна прымусіла падацца на шлях і ісці ў напрамку Любашова. Дзесьці трыста-чатырыста метраў за вёскай, з бакавой дарогі, павярнула фурманка. Вазак спыніў каня і паклікаў мяне жэстам. Я падбегла да воза.

— Давайце, падвязу, — прапанаваў мужчына, — заўсёды бліжэй будзе...

Разам на возе сядзеў хлопчык. Малы з гонарам трымаў у руках лейцы і кіраваў фурманкай. Час ад часу бацька падказваў як кіраваць канём, каб воз не з'язджаў на абочыну дарогі. Урок язды славіла стрыманая чуллівасць ды бацькоўскі аўтарытэт і гонар. Разам праяўлялася мужчынская звышгатовасць і крутасць. Гэтая адчувальная доза энергіі дзіўна не падыходзіла да абставін і акалічнасцей, а ўжо найбольш да сціплай фурманкі, на якой ехала наша тройца. Невыпадкова.





Куток памяці ў невірскай школе



Уладзімір Назарчук, старшыня прыкардонных войск, герой Украіны, прыехаў на два тыдні ў водпуск проста з фронту. Сёння докапаў бульбу, па якую разам з сынком Арцёмам ехалі ў поле пазычаным возам. Палессе з перспектывы ваеннага палігона явілася яму чыстым раем.

— Тут усё, што патрэба для жыцця. Спакой, лес, свая бульба, звычайнае жыццё, рэчка, — дадаў камандзір. — Чаго яшчэ трэба?

* * *

Палескі спакой у многім быў вынікам інфармацыйнай палітыкі краіны. Усё, што дзеялася на ўсходзе краіны, у афіцыйных медыях называлі антытэрарыстычнай аперацыяй у зоне АТО. Яшчэ больш занесенай у прапагандысцкія рамкі выглядала справа мабілізацыі. У публічнай прасторы звычайна агучвалі карысць ад кантрактнай арміі і мадэрнізацыі ваеннага арсенала.

— Тое, што было на пачатку і зараз, — згадзіўся Уладзімір Назарчук, — гэта неба і зямля. Гэта непараўнальныя рэчы. На вайну пайшлі мы з голымі рукамі, не дбаючы нават пра жыццё. Людзі на свой кошт куплялі форму і зброю, дапамагалі харчамі. А зараз ёсць чым ваяваць. Няма, каб хто сядзеў у акопах галодны, каб не мог пазваніць дамоў...

Самым вялікім поспехам мой субяседнік не лічыў адзнак і медалёў:

— З маіх хлапцоў ніхто не загінуў, — сказаў. — Праўда, пяць чалавек было раненых, але гэта мінімальная цана на такой вайне.

Беручы пад увагу прысутнасць дзіцяці на возе, мы тактоўна пазбягалі тэм пра жудасці вайны, пра маральныя дылемы, якія заставіла вырашаць гісторыя. Уладзімір Назарчук ніколі не спадзяваўся, што прыйдзецца ваяваць з чалавекам з суседняга сяла, што прыйдзецца глядзець на сябе як на смяротэльных ворагаў і здраднікаў. (На баку апалчэнцаў ДНР ваюе высокі чынам вайсковец з суседніх Вэтлаў).

Бо ж на вайне не адны салдаты кантрактнай арміі. Па мабілізацыі на фронт трапіла шмат моладзі з цэлай краіны, таксама з навакольных вёсак. У іх не было выбару. Праўда, гэта невялікі адсотак, таму людзі з дыстанцыяй, а часам і недаверам, глядзяць на падзеі на ўсходзе Украіны.

— Ці пагражае нам сусветная вайна? — спытала я на канец.

— Такая вайна пэўна ўспыхне, — пачула я ў адказ, але Расія не выйграе на гэтым. Не пераможа!

(працяг будзе)

Фота і тэкст **Ганны КАНДРАЦЮК**



Прыпрыпяцкі краявід

ISSN 0546-1960